У паўдзённа-ўсходняй частцы Карэліі, на адлежнасьці каля 400 клм. на паўночны ўсход ад Пецярбурга па простай лініі, каля паўночна-ўсходняга ўзьбярэжжа Анескага возера з гэтай мэтай дасьледавана балота Немінскі Мох. Будова тарфяных напластаваньняў зьверху ўніз гэтага балота мае такі характар:

**Балота Немінскі Мох**




1. (0.00-0.75 м.) сфаґнава-мачажынны аліґатрофны торф-ачос 5% раскладзенасьці;
2. (0.75-1.25 м.) шэйхцэрыявы аліґатрофны торф каля 5% раскладзенасьці;
3. (1.25-1.75 м.) пушыцавы аліґатрофны торф 20-25% раскладзенасьці;
4. (1.75-2.50 м.) хваёва-хмызьнячковы мезатрофны торф з значнай колькасьцю хваёвых пнёў (зьверху пласт бярозавага торфу 25 цм.) 50-60% раскладзенасьці;
5. (2.50-2.75 м.) пушыцавы мезатрофны торф 65% раскладзенасьці;
6. (2.75-3.00 м.) шэйхцэрыявы мезатрофны торф 35% раскладзенасьці;
7. (3.00-3.50 м.) гіпнавы торф 30% раскладзенасьці;
8. (3.50-4.00 м.) зьверху амаль чорнага колеру паступова сьвятлеючы ўніз доплерытавы сапрапэль (паводля Потонье[1])), які пераходзіць у рыжавата-аліўкавую гіттыю жэлятынавай кансыстэнцыі;
9. (4.00-5.00 м.) даволі клейкая гліна папялястага колеру.

Істотная зьмена ўмоў балотаўтварэньня, у тым ліку й водна-мінэральнага рэжыму балота, вядзе да зьмены ягонай расьліннай покрыўкі, ад якой і залежыць характар тарфяных напластаваньняў. Апісаная зьмена відаў тарфоў ад гіпнавага эўтрофнага, шэйхцэрыявага, пушыцавага, хваёвага з пнямі й канчаючы сфаґнавым аліґатрофным торфам — залежыць ня толькі ад зьмены ўмоў гідралягічнага парадку. Гэтая зьмена, бязумоўна, мае шчылыную сувязь з паступовым натуральна-гістарычным ходам эвалюцыі тарфянага балота. Уважліва разглядаючы пылковыя спэктры прыведзенай дыяграмы, мы ўважаем за патрэбнае вылучыць наступныя пласты тарфянай залежы:

1. Спэктр пылку глінастага пласту які падсьцілае балота, адлюстроўвае сабой склад лясоў да моманту ўтварэньня балота Немінскі Мох. Як відаць, пераважнае значаньне тут належыць лазе, колькасьць якой у далейшым зьмяншаецца й яна ўступае сваю вядучую ролю бярозе. У гэтым пласьце ясна выступаюць першы максымум елкі й мінімум хвоі. У пылковай флёры глінистага пласту бярэ ўдзел арэшнік, колькасьць якога не дасягае й 10%. У ніжняй частцы пласту сустракаюцца пылковыя зярняты алешыны, якія пасьля зьнікаюць. Гэты пласт наагул бедны на пылок дрэвавых пародаў. (Лічбы з правага боку дыяграмы: лічнік — лік зярнятаў пылку дрэвавых пародаў на 1 кв. цм. прэпарату, назоўнік — лік зробленых прэпаратаў).

2. У вышэйшым пласьце азёрнай гіттыі мы бачым значнае зьмяншэньне пылку лазы. Для бярозы й хвоі характэрная

[1]) Г. Потонье. Сапропелиты. Перевод с немецкого К. П. Калицкого и Н. Ф. Погребова. Изд. ВСНХ 1920.

некаторая няўстойлівасьць v складзе лясоў таго часу, калі адкладваліся пласты азёрнай гіттыі. Аб гэтым сьветчыць перакрыжаваньне іхных лініяў у колькіх месцах. Елка, арэшнік і лаза бяруць удзел у складзе лясоў, але кажная парода ў паасобку не перавышае 10%. Другі раз зьяўляецца алешына. Гэты пласт яшчэ бяднейшы на пылок дрэвавых пародаў за ягоны падсьцільны пласт.

3. Першыя тарфяныя пласты балота Немінскі Мох характарызуюцца значным зьмяншэньнем бярозы й павялічэньнем хвоі. Колькасьць елкі, арэшніка й лазы таксама зьмяншаецца. Пра алешыну трэба сказаць, што на пачатку яе крыху большае, а пасьля колькасьць яе зьмяншаецца. Гэтыя тарфяныя пласты не багатыя на пылок дрэвавых пародаў, але ўсё-ж яго тут у два разы больш, чым у ніжэйшым пласьце азёрнай гіттыі.

4. Пласт торфу, які мае найбольш пылку дрэвавых пародаў, характарызуецца найбольшай раскладзенасьцяй торфу й павышанай попельнасьцяй. Тут хвоя дасягае свайго максымуму. Елка, бяроза, арэшнік і алешына колькасна ўзрастаюць. Асаблівасьцяй гэтага тарфянога пласту будзе тое, што на глыбіні 1.75 м. ад паверхні зьяўляецца прадстаўнік мяшанага дубовага лесу — ліпа.

5. Верхні пласт торфу балота Немінскі Мох мае куды менш пылку дрэвавых пародаў за ніжэйшыя пласты. Пра пылковы спэктр трэба сказаць, што хоць хвоя й перавышае іншыя дрэвавыя пароды, але колькасьць яе паступова зьмяншаецца, а бярозы павялічваецца. Характэрным ёсьць тут другое пабольшаньне елкі, дзе яна дасягае другога максымуму, а пасьля ідзе паступовае яе зьмяншэньне. У сярэдней частцы гэтага тарфянога пласту арэшнік канчальна зьнікае. Прадстаўнікі мяшанага дубовага лесу больш ужо не паказваюцца.

Каля Пецярбурга ёсьць тарфянік Шувалаўскае балота, які на працягу доўгага часу вельмі дакладна вывучаўся цэлым шэрагам дасьледчыкаў. Паводля працаў С. Якаўлева[1]) гэта балота ўтварылася ў канцы рэгрэсіі Анцілавага возера. На

[1]) С. А. Яковлев. Наносы и рельеф Ленинграда и окрестностей. Изв. Научн. Мелиоратив. Института 1924-1926.



падставе гэтага Д. Герасімаў[1]) уважаў за пачатак утварэньня Шувалаўскага балота канец барэяльнага або пачатак атлянтычнага пэрыяду. Гэтая думка Д. Герасімава ў свой час войстра крытыкавалася. Не ўдаючыся ў гэтую дыскусію трэба сказаць, што ў сучасны момант пытаньне пачатку ўтварэньня Шувалаўскага балота трэба ўважаць канчальна вырашаным.




В. Дактуроўскі й Г. Ануфрыяў[2]) сьцьвярджаюць, што ніжнія пласты гэтага балота сьветчаць пра ягоную большую старавечнасьць, чым меркавалася да гэтага часу й іх трэба аднесьці да прадбарэяльнага пэрыяду. Як відаць з пылковай дыяграмы Шувалаўскага балота, якую мы бярэм ад В. Дактуроўскага

[1]) Д. А. Герасимов. Изменение климата и история лесов Тверской губ. в послеледниковую эпоху по данным изучения торф. болт. Изв. Глав. Бот. Сада том 25 вып. 4. 1930.

[2]) В. С. Доктуровский и Г. И. Ануфриев. Материалы по стратиграфии Ленинградских торфяников. Тр. Инсторфа вып. 9, 1931.

й Г. Ануфрыява, ніжнія пласты торфу гэтага балота ўтвараліся ў той час, калі ў складзе лясоў таго пэрыяду бяроза дасягала свайго максымуму. Наадварот, хвоя значна зьмяншалася, набліжаючыся да мінімуму. Елка зьнікала зусім. Раўнуючы гэтыя дадзеныя да нашых пра балота Немінскі Мох, мы бачым, што ніжнія пласты торфу Шувалаўскага балота сынхранічныя з падсьцілальнымі глiністымі пераадкладамі балота Немінскі Мох.

Дадзеныя аналізу пласту ґіттыі й гіпнавага торфу балота Немінскі Мох адпавядаюць такому пэрыяду іх утварэньня ,калі паміж хвояй і бярозай ішло найбольш інтэнсыўнае змаганьне за вядучую ролю ў складзе лясоў, у выніку чаго крывыя гэтых пародаў колькі разоў перакрыжоўваюцца, аб чым у сваім месцы была гутарка. Такі малюнак ходу росту дрэвавых пародаў вельмі характэрны для барэяльнага пэрыяду шкалы Блітта-Сэрнандэра.

Вынікі пылковага аналізу пластоў торфу каля трох мэтраў глыбіні ад паверхні балота паказваюць на такі характар складу лясоў таго часу, калі ўтвараўся гэты торф, дзе хвоя з падпарадкаванай пароды паступова выходзіць у пануючую. Наадварот, бяроза паступова зьмяншаецца. Другі раз зьяўляецца алешына, але колькасьць яе сярод іншых дрэвавых пародаў не перавышае 10%. Гэтыя пласты торфу цалком адпавядаюць атлянтычнаму пэрыяду.

Пласты торфу 1.75-2.50 м. трэба аднесьці да суббарэяльнага пэрыяду Блітта-Сэрнандэра. Колькасьць пылку дрэвавых пародаў у гэтых пластох найбольшая. Профілі тарфянай залежы балота Немінскі Мох паказваюць, што гэты пласт торфу й ёсьць гэтак званы пагранічны гарызонт. Ён ня ўсюды даволі ясна вылучаецца. Калі пагранічны гарызонт ярка выступае бліжэй да краёў балота, дык ужо ў цэнтральнай частцы гэтага зьявішча мы ня бачым. Паводля батанічнага складу гэтыя пласты торфу пабудаваныя з мезатрофнага бярозавага й хваёва-хмызьнячковага (**Ledum palustre L., Andromeda polifolia L., Cassandra calyculata Don., Oxycoccos palustris** Pers.) тарфоў зь вялікай колькасьцяй хваёвых пнёў. Калі мы зьвернем увагу на графік ступені раскладзенасьці торфу (левы бок дыяграмы), дык убачым, што й атлянтычна-суббарэяльны й суббарэяльна-субатлянтычны кантакты даволі ясна выступаюць.



Пачынаючы ад глыбіні 1.50 м. аж да самай паверхні балота залягаюць аліґатрофныя — пушыцавы, шэйхцэрыявы й сфаґнава-мачажынны віды тарфоў. Колькасьць пылку дрэвавых пародаў у гэтых пластох торфу ад двух да пяці разоў (каля паверхні балота) меншая, чым у вышэй апісаных пластох




торфу суббарэяльнага пэрыяду. Гэтыя пласты торфу мы адносім да субатлянтычнага пэрыяду, дзе далейшы ход разьвіцьця дрэвавых пародаў вядзе да сучаснага іх пашырэньня.

Цяпер мы пераходзім да цэнтральнай часткі Карэліі й разгледзім пылковыя дыяграмы двух балотаў — Манагорскага й Казловага балота. Першае залягае каля чыгуначнай станцыі Парандава, Мядзьведзягорскага раёну. Гэта тыпова эўтрофнае балота, якое ўтварылася, як і балота Немінскі Мох, шляхам зарастаньня вадаёму. Тарфяная залеж гэтага балота

ад паверхні да глыбіні 5.25 м. галоўна складаецца з асаковага торфу, у які ўлучаюцца нязначныя таўшчынёю пласты хвашчовага, сфагнавага, эўтрофнага й гіпнавага тарфоў На глыбіні 5.25-6.25 м. залягае хвашчовы торф, за якім ідзе аднамэтровы пласт азёрнай гіттыі. Падсьцілаецца балота клейкім суглінкам папялястага колеру. Раскладзенасьць тарфоў Манагорскага балота не вялікая й на ўсю глыбіню залежы хістаецца ў васнаўным ад 30 да 45%. Выключэньне становяць гіпнавы торф з 25% раскладзенасьці й хвашчовы торф, раскладзенасьць якога 50-60%.

Як відаць з прыведзенай пылковай дыяграмы Манагорскага балота, яна вельмі блізка стаіць да ўжо разгледжанай намі дыяграмы балота Немінскі Мох. Мінэральныя пароды, якія падсьцілаюць гэтыя балоты, пераадкладваліся ў прадбарэяльны пэрыяд. Пласты ґіттыі абодвых балотаў, на падставе пылковага спэктру дрэвавых парадаў, трэба ўважаць за ўтварэньні барэяльнага пэрыяду. Прыблізна ад 4.75 да 5.50 м. глыбіні мы бачым такі малюнак ходу росту дрэвавых парадаў, калі хвоя, апярэдзіўшы бярозу, паступова павялічвалася, а бяроза паступова зьмяншалася. У гэтым пласьце торфу елкі крыху большае, а пасьля адразу зьмяншаецца. Алешына, лаза й арэшнік, кажная парода паасобна, складаюць менш 10% агульнага складу дрэвастою. Гэты пласт торфу трэба аднесьці да атлянтычнага пэрыяду.

Выразнай мяжы паміж тарфянымі напластаваньнямі атлянтычнага й суббарэяльнага з аднаго боку й суббарэяльнага з субатлянтычным пэрыядаў няма. Хістаньне ступені раскладзенасьці тарфоў, як зазначалася вышэй, невялікае. Батанічны склад тарфоў таксама мала аб чым сьветчыць. Вялікую розьніцу мы маем толькі ў колькасьці пылковых зярнятаў дрэвавых парадаў на 1 кв. цм. прэпарату. Гэта павялічэньне пылку ў колькі разоў, а таксама максымум алешыны, даюць падставы вылучыць пласт торфу на 3.50-4.00 м. глыбіні, які, паводле часу яго ўтварэньня, трэба аднесьці да суббарэяльнага пэрыяду шкалы Блітта-Сэрнандэра.

Паўночная частка Мядзьведзягорскага раёну прадстаўлена пылковай дыяграмай Казловага балота. Тарфяная залеж гэтага аліґатрофнага тарфяніка да глыбіні 1.00 м. складаецца



з аліґатрофнага сфаґнава-мачажыннага торфу. Ад глыбіні 1.00 да 1.50 м. залягае хваёва-хмызьнячковы аліґатрофны торф, за якім ідзе паўмэтровы пласт пушыцавага аліґатрофнага торфу з хваёвымі пнямі. Ад 2.00 да 2.75 м. залягае хваёва-хмызьнячковы мезатрофны торф. Ніжэй ідзе пласт пушыцавага мезатрофнага торфу й пры самым дне балота — пласт эўтрофнага хвашчовага торфу.

Пласт торфу на глыбіні 1.50-2.25 м. даволі ясна вылучаецца большай ступеняй сваёй раскладзенасьці і сваім батанічным складам. Усё гэта, а таксама павышаная колькасьць пылковых зярнятаў дрэвавых парадаў на 1 кв. цм. прэпарату, сьветчыць аб тым, што гэта ёсьць паграні чны гарызонт тарфянай залежы Казловага балота.

КАЗЛОВА БАЛОТА




З прыведзенай дыяграмы відаць, што пылковыя спэктры дрэвавых парадаў Казловага балота поўнасьцю адпавядаюць верхняй частцы ўжо разгледжаных намі пылковых дыяграмаў. Ход крывых пылку дрэвавых парадаў па глыбіні торфу адпаведна зь ягоным батанічным складам і ступеняй рас-

кладзенасьці дае падставы аднесьці пачатак утварэньня Казловага балота да атлянтычнага пэрыяду.

У паўночнай частцы Карэліі намі праведзеныя досьледы балотаў: Вягеракша — каля гор. Кем — Беламорскага раёну, Коці-Шуо і Лаўгоман-Шуо — Лоўхскага раёну.

### Балота Вегеракша



Балота Вягеракша зьяўляецца тыповым аліґатрофным балотам градамачажыннага комплексу. Верхняя палова тарфянай залежы складзена з комплекснага сфаґнавага торфу аліґатрофнага тыпу, за якім ідуць: пласт комплекснага сфаґнавага мезатрофнага торфу й пласт эўтрофнага чаротавага торфу. Ад глыбіні 1.50 м. да самага дна балота залягае эўтрофны хваёва-бярозавы торф. На ўсёй глыбіні тарфянай залежы балота Вягеракша сустракаецца шмат пнёў. Пры самым дне балота знайдзена шмат драўніны, яловых і хваёвых шышак, што сьветчыць аб утварэньні гэтага балота шляхам забалочваньня лесу.

Балота Коці-Шуо — мезатрофнага тыпу. Тарфяная залеж яго складзеная з мезатрофных сфаґнава-комплекснага й хваёва-хмызьнячковага тарфоў. Пры самым дне балота залягае пласт эўтрофнага асаковага торфу, за якім ідзе пласт азёрнай ґіттыі.



### Балота Коці Шуо



Балота Лаўгоман-Шуо — эўтрофнага тыпу. Ягоная тарфяная залеж прадстаўленая зьверху трымэтравым пластам эўтрофнага асаковага торфу, які падсьцілаецца двумэтравым пластам хвашчовага торфу.

Уважліва разглядаючы пылковыя дыяграмы гэтых трох балотаў трэба сказаць, што яны вельмі нагадваюць адна адну. У кажнай дыяграме мы бачым як хвоя з падпарадкванай пароды выходзіць у пануючую. Наадварот, бяроза з пануючай пароды пераходзіць у падпарадкваную. Характар тарфяных напластаваньняў і ступень раскладзенасьці тарфоў паказваюць на даволі разнастайны малюнак. Тарфянікі Вягеракша і Коці-Шуо характэрныя даволі добра адзначаным паграцічным гарызонтам, асабліва бліжэй да краёў балот. Зусім іншая справа на балоце Лаўгоман-Шуо. Як ужо зазначалася раней, тарфяная залеж гэтага балота даволі аднастайная. Зьмена ў ступені раскладзенасьці торфу на розных глыбінях невялікая.




Аднак, характар пылковага спэктру дрэвавых пародаў і багацьце на пылковую флёру паасобных пластоў торфу гэтага балота даюць падставу аднесьці пачатак утварэньня балота Лаўгоман-Шуо, а таксама балотаў Коці-Шуо й Вягеракша да атлянтычнага пэрыяду шкалы Блітта-Сэрнандэра.

На прыкладзенай схэме ізахронаў пылку балотаў Карэліі відаць, што магутнасьць напластаваньняў торфу ў паасобных пэрыядах на працягу росту балотаў розная для розных тарфянікаў. Гэта нармальнае зьвішча. У прыродзе ўсё залежыць ад цэлага шэрагу фактараў, якія абумоўліваюць рост балотаў. Калі мы канстатуем хоць найменшую зьмену аднаго зь іх, гэта, бязумоўна, вядзе да зьмены іншых. Такія фактары, як рознае геаграфічнае разьмяшчэньне балотаў, неаднолькавыя іхныя гідралягічныя ўмовы, геамарфалёгія ды цэлы шэраг інш., ня могуць не адбіцца на ўсім ходзе росту тарфянікаў, у выніку чаго мы для розных балотаў маем розную ступень торфаадкладу. Як відаць з прыведзенай схэмы, найхутчэй нарастаў торф на Манагорскім балоце, глыбіня якога каля 7 мэтраў. Далей ідуць балоты Лаўгоман-Шуо й Коці-Шуо.






Ні-бы выняткам ёсьць балота Вягеракша з таўшчынёй торфу на 2.25 м., якое пачатак свайго ўтварэньня вядзе з атлянтычнага пэрыяду. Калі мы зьвернемся да гісторыі гэтага балота, дык убачым, што яно асушана ў 1930 г. й выкарыстоўваецца пад засевы сельска-гаспадарчых культураў. Ведама, што тут стварыліся іншыя гідралягічныя ўмовы й адбылася значная ўсадка торфу.

Пачатак утварэньня балотаў Кольскай паўабтокі паводля думкі Д. Герасімава ідзе з суббарэяльнага пэрыяду. З нашага гледзішча гэта будзе правільным толькі для паўночнай часткі гэтай паўабтокі. Цэлы шэраг літаратурных дадзеных, а таксама й нашыя невялікія досьледы, кажуць, што балоты паўдзённай часткі Кольскай паўабтокі ўтварыліся раней за суббарэяльны пэрыяд. Для паледавіковай гісторыі Ляплян-

дыі V. Auer[1]) выдзяляе тры пэрыяды: пэрыяд адыходу ледавіка, за якім ідзе пашырэньне бярозы й хвоі, далей пэрыяд павялічэньня пашырэньня хвоі і, апошні, пэрыяд павялічэньня елкі, зьвязаны з пагоршаньнем клімату. Дзякуючы палепшаньню кліматычных умоў другога пэрыяду, хвоя даходзіць да масавага разьвіцьця побач зь вялікім пашырэньнем алешыны й зьяўленьнем прадстаўнікоў мяшанага дубовага лесу. В. Парэцкі, А. Жузь й В. Шэшукова[2]), параўноўваючы вынікі

## УМОЎНЫЯ ЗНАКІ

### ТАРФЫ:



сваіх досьледаў Кольскай паўабтокі з дадзенымі V. Auer'a, уважаюць іх за аналягічныя. „Першы з нашых пэрыядаў, — пішуць згаданыя аўтары, — трэба аднесьці да другой паловы атлянтычнага пэрыяду Блітта-Сэрнандэра або IV зоны Поста, другі да суббарэяльнага пэрыяду, або III зоны Поста й, нарэшце, трэйці да субатлянтычнага пэрыяду й II і I зонаў Поста". Калі пачатак утварэньня паасобных балотаў і прыходзіцца датаваць больш позным пэрыядам, дык гэтыя балоты не зьяўляюцца першапачаткавымі балотнымі ўтварэньнямі пэўнага геаграфічнага раёну.

[1]) V. Auer. Untersuchungen über die Waldgrenzen und Torfboden in Lappland. Helsinki. 1927.

[2]) В. С. Порецкий, А. Жузе, В. Шешукова. Диатомовые Кольского полуострова. Тр. Геоморфологического Ин-та. Вып. 8, 1933.



У барэяльны пэрыяд з умераным кліматам сярод лясоў гэтага часу галоўнае месца належыць хвоі й бярозе. Як відаць з прыведзеных дыяграмаў, у паасобных пластох торфу, якія адпавядаюць гэтаму пэрыяду, мусім канстатаваць або перавагу хвоі або перавагу бярозы. Гэтыя дзьве пароды змагаюцца між сабой за панаваньне ў складзе лясоў. Вельмі цікава, што на працягу ўсяго свайго існаваньня яны нэгатыўна ставяцца адна да адной. Калі толькі, сіламоц тых ці іншых прыродных зьменаў, крывая аднэй зь іх на дыяграме адхіляецца ўправа, у бок колькаснага павышэньня, дык, у тэты-ж самы час, крывая другой пароды прымушана адхіліцца ўлева, у бок зьмяншэньня. Крывыя гэтых пародаў ідуць паралельна толькі ў самых вылучных выпадках.

У атлянтычны пэрыяд, з больш вільготным і цёплым кліматам — кліматычны оптымум, паводля дадзеных бальшыні пылковых дыяграмаў, хвоя канчальна пераганяе ўсе іншя дрэвавыя пароды. Аднак, гэтае змаганьне хвоі зь бярозай за першае месца ня ўсюды праходзіла гладка. Прыкладам пылковая дыяграма Казловага балота кажа, што хвоя выйшла на першае месца толькі ў канцы атлянтычнага пэрыяду, а дыяграмы Шувалаўскага балота й балота Коці-Шуо кажуць пра яшчэ доўгае такое змаганьне й у наступным суббарэяльным пэрыядзе, пасьля чаго хвоя ўжо займае першае месца ў складзе лясоў. Трэба меркаваць, што ў гэтым змаганьні паміж хвояй і бярозай, мясцовыя натуральна-гістарычныя фактары мелі далёка не апошнюю ролю.

Суббарэяльны пэрыяд характарызуецца больш сухім і цёплым кліматам — ксэратэрмічны пэрыяд. Дадзеныя цэлага шэрагу дасьледчыкаў сьветчаць наагул пра абсыханьне балотаў і іхным аблясеньні ў гэты пэрыяд. Пласты торфу, якія адпавядаюць пагранічнаму гарызонту, на некаторых балотах Карэліі таксама характэрызуюцца даволі высокай ступеняй сваёй раскладзенасьці ды сваёй структурай амаль нічым ня розьняцца ад сынхранічных пластоў торфу больш паўдзённых шырыняў. Істотнай розьніцай у гэтым пляне для балотаў Карэліі будзе тое, што пагранічныя гарызонты гэтых балотаў у бальшыні выпадкаў ясна адзначаныя бліжэй да краёў балотаў. У цэнтральнай частцы балотаў такія пласты торфу

характэрызуюцца пераважна вялікай таўшчынёй. Раскладзенасьць і попельнасьць іх найчасьцей вельмі мала розьніцца ад пластоў торфу, якія ляжаць вышэй і ніжэй. Таму, у гэты ксэратэрмічны пэрыяд, які выклікаў у некаторых геаграфічных зонах спыненьне адкладаў торфу й засяленьне балотаў лясной расьліннасьцяй, торфаўтварэньне на тэрыторыі Карэліі ішло даволі інтэнсыўным шляхам. Такое зьявішча, як відаць, нельга тлумачыць асобнымі мясцовымі гідралягічнымі фактарамі. Не адкідаючы наяўнасьці магчыма й гэткіх умоў, трэба ўважаць, што наогул кліматычныя ўмовы ў суббарэяльны пэрыяд на тэрыторыі Карэліі былі адменнымі ад кліматычных умоваў больш паўдзённых шырыняў. Вось чаму на тэрыторыі Карэліі й Кольскай паўабтокі ня толькі не запынілася адкладаньне торфу, але, наадварот, у суббарэяльны пэрыяд мусім канстатаваць даволі шырокае ўтварэньне балотаў.

Што да ўмоў больш паўдзённых шырыняў, дык у гэты пэрыяд мы маем вялікае пашырэньне мяшаных дубовых і наагул дубовых лясоў. Бяручы на ўвагу асаблівасьць натуральнагістарычных умоў тэрыторыі Карэліі, трэба меркаваць, што прадстаўнікі мяшанага дубовага лесу ня мелі тут вялікага пашырэньня. Зь літаратурных крыніцаў ведамыя выпадкі далёкага заносу пылку дрэвавыхародаў. На балотах Карэліі мы знаходзім у торфе вельмі абмежаваную колькасьць пылковых зярнятаў мяшанага дубовага лесу. Такім чынам, калі гэтыя пароды лесу й заходзілі больш на поўнач ад сучаснай мяжы іх пашырэньня, дык, трэба меркаваць, толькі паасобнымі гнёздамі.

Уважліва разглядаючы пылковыя спэктры дрэвавых пародаў суббарэальнага пэрыяду, мы сутыкаемся зь цікавым момантам — даволі значным пашырэньнем алешыны. Гэтае, на першы пагляд парадаксальнае, зьявішча — разьвіцьцё вільготалюбнай пароды ў ксэратэрмічны пэрыяд, — добра тлумачыць Д. Герасімаў. Паводля ягоных досьледаў на эўтрофных балотах Цьвярской губ., колькасьць алешыны даходзіць да 60%. Пашырэньне яе абгрунтоўваецца тым, што падсохлыя тарфянікі ў суббарэяльны пэрыяд пакрываліся гэтай вільготалюбнай пародай таму, што толькі там алешына магла знаходзіць сабе патрэбную колькасьць вільгаці. Адгэтуль пылковыя зярняты алешыны разносіліся ветрам і траплялі ў тыя тарфяныя пласты, якія мы цяпер аналізуем ды думаем, чаму алешына, гэтая вільготалюбная парода, даволі значна была пашыраная ў ксэратэрмічны — суббарэяльны пэрыяд.

Субатлянтычны пэрыяд, зь вільготным і ўмяркаваным кліматам, характарызуецца абсалютным мінімумам бярозы ды перавагай хвоі над усімі дрэвавымі пародамі. Прадстаўнікі мяшанага дубовага лесу дзе-ні-дзе яшчэ сустракаюцца ў першай палове гэтага пэрыяду, але хутка канчальна зьнікаюць. Таксама арэшнік значна зьмяншаецца ў другой палове пэрыяду, а мясцамі й зусім зьнікае. Для гэтага пэрыяду будзе характэрным абсалютны максымум елкі, а пасьля, ейны занядпад, праз які гэтая дрэвавая парода прыходзіць да цяперашняга свайго пашырэньня.

Такім чынам, утварэньне балотаў паўночна-заходняй Эўрапейскай часткі СССР мае быць у гэтым парадку:

1. Балоты паўночнай часткі Кольскай паўабтокі ўтварыліся ў суббарэяльны, а паўдзённай часткі ў атлянтычны пэрыяд.

2. Балоты паўночнай часткі Карэліі ўтварыліся ў атлянтычны пэрыяд.

3. Пачатак утварэньня балотаў сярэдняй і паўдзённай частак Карэліі належыць да барэяльнага пэрыяду.

4. Пачатак утварэньня балотаў каля Пецярбурга прыпадае на прадбарэяльны пэрыяд.

---

Увесь час кажам „літоўскі, ліцьвін", але гэта толькі замест „беларускі, беларус", бо ў 1510 годзе пра запраўдную этнографічную Літву ніхто й ня сьніў; яшчэ Рэй у 1562 годзе ліцьвіном беларуса называў, а ў Маскве й у XVII стагодзьдзі „литовский" тое-ж, што беларускі.

АЛЯКСАНДРА БРУКНЭР (A. Brückner)
("Rusko-Polski rekopis roku 1510",
Slavia VII. I.)

**БАГДАН АНІШЧУК**

# *Ад Вільні да Кракава*

## Да дыскусіі пра беларускае малярства ў старой Польшчы

Падчас украінскага навуковага зьезду ў Ню Ёрку з прычыны 80-годзьдзя Навуковага Таварыства ім. Т. Шэўчэнкі й 35-годзьдзя Украінскай Акадэміі Навук, сп. Д. Гарняткевіч чытаў 27 сьнежня 1953 г. рэфэрат „Сучасны стан рэстаўрацыі стараўкраінскіх малюнкаў у катэдры ў Кракаве". У сваім рэфэраце сп. Гарняткевіч трымаўся далей свайго старога й хвальшывага пагляду аб гэтым, што старыя бізантыйскага стылю фрэскі ў касьцёлах Польшчы — у Кракаве, Сандоміры, Любліне ды іншых местах — належаць да ўкраінскага мастацтва. У дыскусіі пасьля гэтага рэфэрату забіраў голас др. У. Сядура, які канкрэтнымі фактамі й довадамі выявіў усю безпадстаўнасьць гэтых цьверджаньняў.

Др. Сядура на пачатку прыгадаў агульна ведамыя гістарычныя факты зь Ягайлавага жыцьця пра тое, што ён радзіўся, рос і выгадаваўся ў Беларусі й там-жа пазнаўся зь беларускім царкоўным і сьвецкім мастацтвам. Як сьветчаць летапісы, адмысловыя капэлі беларускіх із струннымі інструмантамі музыкаў запрашаліся на каралеўскі двор, каб цешыць Ягайлу беларускімі сьпевамі й музыкай. Выгадаваўшы з маленства свой мастацкі густ вылучна ў беларускім асяродзьдзі, Ягайла ўжо праз усё сваё жыцьцё насіў у сэрцы нясьцерты ўспамін пра сваю бацькаўшчыну ды тамашніх тварцоў мастацкіх каштоўнасьцяў.

Вось дзеля гэтага, калі заіснавала патрэба ўпрыгожыць Кракаўскі ды іншыя польскія касьцёлы, Ягайла, памятуючы высокамастацкія абразы зь беларускіх цэркваў, запрасіў радзімых сабе маляроў-мастакоў зь Беларусі на працу да сябе ў Польшчу. Аб гэтым факце вымоўна сьветчаць захаваныя рахунковыя кнігі Ягайлавага каралеўскага двара, дзе, між іншым, прыгадваецца й ведамае ў тагачаснай Вільні прозьвішча маляра Владыкі, а беларускія мастакі азначаюцца як „pictores Ruthenici". Пра беларускае паходжаньне мастакоў, каторыя некалі ўпрыгожылі польскія сьвятыні, сьветчаць і стара-беларускія напісы ды захаваны ў люблінскім касьцеле надпіс з 1413 г. імем аднаго з маляроў — **Андрэй.** Аб прыгаданым пераканаўча пісаў у сваёй манаграфіі польскі дасьледнік старога беларускага мастацтва ў Польшчы В. Лушчкевіч[1]). У сваёй працы гэты аб'ектыўны польскі дасьледнік, пад ціскам бясспрэчных фактаў, кіруючыся навуковым сумленьнем, шчыра прызнаў **беларускі** характар фрэскаў кракаўскае капліцы. Вось даслоўны беларускі пераклад сьцьверджаньня гэтага польскага навукоўца:

— „Капліца гэтая паводле свайго стылю ня была ўзгодненая з вымогамі бізантыйскага канону разьмяркаваньня насьценных малюнкаў, што напэўна спрычыніла немалыя клопаты запрошаным для размаляваньня яе беларускім маляром" („malarzom białoruskim") [2]).

Гэтак навет некаторыя польскія дасьледнікі яшчэ ў мінулым стагодзьдзі адкрыта вызнавалі беларускае паходжаньне касьцельных бізантыйскіх абразоў у этнографічнай Польшчы.

Гэткай-жа думкі аб беларускім паходжаньні старога фрэскавага мастацтва ў Польшчы трымаюцца й нямецкія вучоныя, прыкладам др. Іппэль[3]). Пасьлядоўна даводзіць гэтае самае й ведамы расейскі гісторык мастацтва І. Некрасаў у колькіх сваіх працах[4]). Нарэшце, да прызнаньня беларускага паходжаньня й характару старых бізантыйскіх абразоў у Польшчы схіляюцца й найбольш аб'ектыўныя ўкраінскія дасьледнікі. Гэтак, прыкладам, М. Грушевська[5]), дасьледуючы паходжаньне згаданых фрэскаў, прыйшла да выснаву, што хоць тэрмін „рускі" можна тлумачыць і як беларускі, і як украінскі,

---

[1]) W. Łuszczkiewicz. Malarstwo religijne w Polsce. Encyklopedja kościelna. Wyd. przez Michała Nowodworskiego, Tom XII, Warszawa, 1880.

[2]) Там-жа.

[3]) Dr. Albert Ippel „Zur Weissruthenischen Kunst", Weissruthenien" herausgegeben von Walter Jaeger, Berlin, 1919.

[4]) Прыгадаем тут некаторыя працы І. Некрасава: а) Византийское и русское искусство, 1924, М. Стр. 78-90, б) Древнерусское зодчество XI-XVII веков, 1936, М., в) Древнерусское изобразительное искусство, 1937, Москва, г) Возникновение московского искусства. 1929, М. (Разьдзел 4-ы прысьвечаны беларускай архітэктуры).

[5]) М. Грушевська. „Причинки до історії руської штуки в давній Польщі (етнографічній)", в томе LI, в I. „Записок Наукового Товариства імени Шевченка", Львів, 1903.

аднак, піша яна, трэба пагадзіцца з польскім дасьледнікам В. Сакалоўскім[6]) што да віленскага паходжаньня мастакоў-маляроў кракаўскае капліцы. Грушэвська сьцьвярджае таксама, што пры дварох Ягайлы й Казімера Ягайлавіча беларускае мастацтва мела бясспрэчную перавагу над украінскім. У працы М. Грушэвськой наагул асабліва прыемным зьяўляецца свабоднае ўжываньне тэрмінаў „беларускае мастацтва”, „беларускае малярства” й г. п. Якім кантрастам зьяўляецца прыгаданае, раўнуючы да дзеякіх сяньняшнік украінскіх галасоў, якія яшчэ ў сярэдзіне нашага стагодзьдзя, усьлед за некаторымі расейцамі, пробуюць адмаўляць апрычоную беларускую архітэктуру й малярства, г. зн. тое, што ў дачыненьні да іх самых робяць тыя-ж расейцы.

У беларускай мастацтвазедзе пытаньне аб беларускім характары бізантыйскіх абразоў у Польшчы ўжо даўно вырашанае пазытыўна й пераканальна як у працах стрэйшых вядамых мастацтваведаў М. Шчакаціхіна[7]) й М. Касьпяровіча[8]), гэтак і ў працах маладзейшых беларускіх навуковых працаўнікоў у гэтай галіне, як Сымон Брага[9]) ды Глыбінны[10]).

Аб беларускім мастацтве ў даўнейшай Польшчы друкаваліся таксама матар'ялы ў беларускіх і іншых навуковых выданьнях у Задзіночаных Штатах Амэрыкі[11]).

---

[6]) M. Sokołowski. Dwa gotycyzmy, wileński i krakowski, w architekturze i złotnictwie i źródła ich znamion charakterystycznych. „Sprawozdania do badania historyi sztuki w Polsce”. Akademija Umiejętności w Krakowie, t. VIII, zeszyt I i II, 1907.

[7]) а) М. Шчакаціхін. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. ТомІ. (Курганавыя старажытнасьці і скарбы. Архітэктура XII стагодзьдзя. Замкавае і ваеннае будаўніцтва. Беларуская ґотыка). Выданьне Інстытуту Беларускай Культуры, 1928, Менск.

б) М. Шчакаціхін. Беларускае мастацтва ў гістарычна-археалягічнай літаратуры. Адбітак з „Полымя”, Менск, 1927.

[8]) М. Касьпяровіч. Беларускае малярства ў Польшчы. „Маладняк” № 6, 1925 Менск.

[9]) Сымон Брага. Рукою Андрэявай. Беларускае малярства ў Польшчы. Літаратурна-мастацкі часапіс „Шыпшына”, № 2, Рэгенсбург, 1946.

[10]) У. Глыбінны. Старажытныя школы беларускага малярства. Ілюстраваны часапіс „Новы Шлях” № 4, 1944, Менск, а таксама „Вытокі беларускага мастацтва”, „Беларуская Газэта” № 89, 90, 91, 92, 93, 94, 95, 1943 г. Менск.

[11]) Глядзеце працы др. У. Сядуры „Беларускае малярства”. Часапіс



Гэтак, нават гэты вельмі няпоўны пералік некаторых толькі працаў сьветчыць аб тым, што ўжо здаўна й да сяньня ў навуцы замацаваўся пагляд пра беларускі характар згаданых абразоў у Кракаўскай ды іншых капліцах і касьцёлах Польшчы. Да гэткага выснаву прыходзіць кажны сумленны й аб'ектыўны навуковец, які разважна ўзважвае ўсе наяўныя гістарычныя факты.

На вялікі жаль, сп. Гарняткевіч, які выступаў у дыскусіях Камісіі ня выявіў так неабходнае для кажнага навукоўца якасьці — навуковае сумленнасьці. Наўсуперак усім гістарычным фактам і лёгіцы, ён згары й сілком вылучыў кракаўскія ды іншыя касьцельныя фрэскі з агульнае гісторыі старога беларускага мастацтва й зусім беспадстаўна ды бяспраўна залічыў іх да малярства ўкраінскага. А калі др. Ул. Сядура выявіў у сваім выступленьні ўсю беспадстаўнасьць украінскіх прэтэнзіяў на гэтую важную дзялянку гісторыі беларускага малярства, падмацоўваючы свае мяркаваньні дакумантамі й выказваньнямі расейскіх, польскіх, нямецкіх ды нават украінскіх вучоных, як згаданая М. Грушэвська, дык сп. Д. Гарняткевіч, заместа адказу па сутнасьці, пачаў адмаўляць існаваньне беларускага мастацтва наагул.

— Я, — казаў сп. Гарняткевіч, — адкажу на ўсё гэта вельмі проста. Паліхромія мусіць быць зьвязаная з існаваньнем архітэктуры й малярства. Але я нічога ня ведаю пра існаваньне беларускае архітэктуры й малярства. Дзе яны? — патэтычна зьвярнуўся да слухачоў гэты прадстаўнік украінскае мастацтваведы, сьцьвярджаючы гэтым запытаньнем поўную сваю няведу ў дачыненьні да мастацтва братняга народу.

Тут ён, як на довад, спаслаўся быў на колішнюю заяву др. Я. Станкевіча, быццам усе архітэктурныя й мастацкія помнікі ў Беларусі зьнішчаныя на працягу вякоў ваенных навалаў, што, зрэшты, ня сьветчыць аб тым, каб іх ня было. На падставе гэтага, больш чым сумлеўнага, што да дакладнасьці перадачы думкі др. Станкевіча, сьцьверджаньня, сп. Гарняткевіч зрабіў усёткі выснаў, што гэткіх помнікаў запраўды ні-

---

Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва „Запісы” № 2(4), 1953, Нью-Ёрк, а таксама таго-ж аўтара „Истоки белорусского искусства”, „Новый Журнал”, кніга 36, 1953, Нью-Ёрк.

колі ня было, накш кажучы, сьцьвердзіў тое, што яму надта хацелася-б сьцьвердзіць. І др. Сядура, адказваючы на згаданае, выявіў свой шчыры жаль з прычыны аж гэткага няведаньня й запярэчаньня сп. Гарняткевічам факту існаваньня беларускага мастацтва, хоць кажнаму сумленнаму дасьледніку ўсходня-эўрапейскага мастацтва добра ведамыя гэткія помнікі беларускага архітэктурнага мастацтва, як Смаленскія цэрквы на Сьмядыні, Пётрапаўлаўская й Іёна-Багаслоўская ды Сьвірская цэрквы канца 11 й пачатку 12 ст., Добравешчанская царква ў Віцебску, хорам сьв. Сафіі, Спаская царква й Барысаглебскі манастыр у Полацку, а таксама Калоская царква ў Горадні ў кубічным бізантыйскім стылі каменнага будаўніцтва.Замкі ў Навагрудку, Троках, Лідзе, Міры, Крэве й інш. з 13 стагодзьдзя рэпрэзэнтуюць сваеасаблівыя адмены беларускае ґотыкі. 16-ае стагодзьдзе прынесла на Беларусь росквіт архітэктуры раманскага рэнэсансу ў выглядзе арыгінальных самабытна-беларускіх чатыравышкавых позна-ґатыцкіх пабудоваў на аснове перапрацаваных бізантыйскіх плянаў (г. зв. цытадэльны хорам, прыкладам, Бэрнардынскі касьцёл у Вільні). Сынкавіцкая царква ў Слонімшчыне, Мала-Мажэйкаўская ў Лідчыне ды Супрасьлеўскі манастыр з царквою ў Беласточчыне — сьветкі далейшага разьвіцьця беларускага архітэктурнага рэнэсансу на аснове беларускае ґотыкі. Пазьнейшае запанаваньне палацавага й хорамнага плянаў над ваеннազамкавымі стварылі беларускую архітэктурную школу ў Полацку й прывялі да панаваньня велічнага клясычнага стылю двувышкавай базылікальнай пабудовы з трансэптам ці без яго ў вадзін ці ў тры нэфы. 18-ае стагодзьдзе прынесла ў Беларусь новы стыль — барок. Самабытныя народныя стылі далі шмат прыгожых вузораў у драўляным будаўніцтве ў Віцебшчыне, Магілеўшчыне й Случчыне, а Ваўкавыская й Гомельская цэрквы — высокія ўзоры народнага будаўнічага мастацтва ў нацыянальным стылі.

Дзеля спачатнага азнаёмленьня зь беларускай архітэктурай мы параілі-б сп. Гарняткевічу зазірнуць у друкаваную ў Нью-Ёрку працу др. У. Сядуры „Беларуская Архітэктура"[12]).

[12]) Д-р У. Сядура. Вытокі беларускага мастацтва. Беларуская архітэктура. Часапіс Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва „Запісы", № 2, Том I, 1952, Нью-Ёрк, Ст. 71-87.



А дзеля больш дакладнага вывучэньня беларускае архітэктуры параім яму прачытаць „Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва" М. Шчакаціхіна. Што да беларускага малярства, дык параім сп. Гарняткевічу перагарнуць самперш згаданыя ўжо „Запісы" № 2(4) за 1953 г. ды на бачынах 80-93 прачытаць працу таго-ж др. У. Сядуры „Беларускае малярства". Калі-ж наагул гаварыць аб працах на гэтую тэму, дык адзін пералік іхных назоваў ахапляе колькі дзесяткаў бачынаў машыновага тэксту. Гэткая бібліяграфія, між іншага, ужо ўкладзеная др. У. Сядурам, як дадатак да падрыхтаванае ім-жа яшчэ ў Нямеччыне сынтэтычнае працы ў нямецкай мове „Die Weissruthenische Kunst".

Нарэшце, варта яшчэ адцеміць, што сп. Гарняткевіч у сваім адказе на паважныя й навукова абґрунтаваныя закіды карыстаўся й зусім ненавуковымі мэтадамі. Гэтак, прыкладам, ён заявіў, што расейскі дасьледнік Сабалеўскі нібы называў старыя фрэскі ў Польшчы ўкраінскімі. На самай справе А. І. Сабалеўскі называе іх у стылі расейскае тэрміналёгіі — „рускімі".[13]). Аднак, усьлед-жа сп. Гарняткевіч запэўніў, што з паглядамі расейскіх вучоных ён наагул лічыцца ня можа, бо ведае іхнюю тэндэнцыйнасьць. Гэтым разам ён меў на думцы мастацтвазнаўца І. Някрасава, які якраз вырозьніваецца сярод расейскіх вучоных сваёй аб'ектыўнасьцяй, не падзяляе вялікадзяржаўніцкіх паглядаў і ў сваіх працах скрозь падчырквае высокі ўзровень старога беларускага мастацтва, ягоны ўплыў на расейскае мастацтва, а што галоўнае — уважае старыя бізантыйскія абразы ў Польшчы за незапярэчліва беларускія. Тут сп. Гарняткевічу зусім бракавала лёгікі й пасьлядоўнасьці. Ягонае запярэчаньне навуковае праўды І. Некрасава й згода з А. Сабалеўскім у гэтым выпадку нагадвае дзеяньне паводле ведамай афрыканска-готэнтоцкай маралі: Калі я ўкраў у суседа карову — гэта добра, калі-ж ён украў у мяне — гэта ўжо дрэнна.

Зусім не даводзіць украінскасьці мастакоў, якія ўпрыгожвалі Кракаўскую катэдру, і прыгаданы сп. Гарняткевічам факт, быццам адзін зь іх асеў пазьней у Перамышлі. Калі гэтак і бы-

[13]) А. И. Соболевский. Русские Фрески в Старой Польше. Издание Московского Общества по исследованию памятников древности при Московском Археологическом Институте. М. 1916 г.

ло, дык гэта сьветчыць аб высокай ацэне здольнасьцяў нашых мастакоў тагачасным грамадзтвам і аб тым, што слава іхная разыходзілася далёка за межы Кракава, калі іх запрашалі на сталую працу і ў іншыя месцы. Вось-жа магло стацца, што ў пошуках высокіх заробкаў дзе-хто з нашых мастакоў і асеў, хай сабе і ў згаданым Перамышлі, тым балей, што ўсё гэта дзеілася ў межах тае-ж дзяржавы. Але прыгаданы сп. Гарняткевічам факт зусім ня сьветчыць аб тым, што беларускі мастак, трапіўшы ў чужыя месты, зрокся й свае бацькаўшчыны й сваіх малярскіх звыкаў, выробленых ім у тагачаснай беларускай малярскай школе.

Праўда, гэтым разам сп. Гарняткевіч ужо ня ўжываў у сваіх довадах прозьвішча Гальшанскай і абмежыўся адно імем фундатаркі касьцёлу ў Кракаве — Сонькі. Калі-ж др. Сядура назваў ейнае поўнае прозьвішча й зазначыў паходжаньне ейнага роду з беларускіх Гальшанаў, дык сп. Гарняткевіч не знайшоў быў нічога лепшага адказаць, як спаслацца на Кіеўскую, пахаваную там, сьвятую Соньку. Аднак, як нам ведама, Сонька Гальшанская ніколі ня была кананізаваная сьвятой і, наагул, ніколі ў Кіеве пахаваная ня была, дык і гэты довад сп. Гарняткевіча стаўся адно красамоўным сьветчаньнем непаважнасьці ўсіх ягоных довадаў наагул.

Пасьля сп. Гарняткевіча выступаў іншы ўкраінскі мастацтвазнаўца, праф. О. Повстенко, які пад ціскам пераканальных фактаў, прыведзеных др. Сядурам, мусіў апраўдвацца перад беларусамі, што тут ня было імпэрыялістычных намераў ды што праўду маюць абодвы — і сп. Гарняткевіч, і др. Сядура. Не запярэчваючы факту запросінаў мастакоў зь Вільні, праф. Повстенко зрабіў дапушчэньне, што гэта маглі быць украінскія мастакі — уцекачы з Кіева ад татарскае навалы, якія й аселі былі на стала ў Вільні. Аднак, ніякіх довадаў гэткага нязручнага й складанага мяркаваньня няма, тым балей, што паміж разбурэньнем Кіеву Батыям у 1240 г. й часам зьяўленьня ў Кракаве першых беларускіх мастакоў у 1393-94 г. г. мінула больш чымся паўтараста гадоў. А падругое, помнікі малярства былі ведамыя ў Беларусі й да Батыявай навалы, яшчэ ў 12 стагодзьдзі. Фрэскі Полацкага Барыса-Глебскага манастыра й Сьмядынскія росьпісы ў Смаленску сьветчаць аб вельмі раньнім самастойным беларускім малярстве, узоры якога ўжо тады зусім мала нагадвалі кіеўскія ці наўгародскія формы, вызначаючыся выразным нахілам да заходняэўрапейскіх формаў у арнамэнтаваных дэталях. Фрэскі-ж Троцкага замку з 14 ст. былі багатыя паліхроміяй бізантыйскага стылю. Гэткая паліхромія, шляхам выробленых мастацкіх традыцыяў прыйшла зь Беларусі ў 14-15 ст. ст. і ў Польшчу, сьветчачы аб суцэльным, пасьлядоўным і нясупынным працэсе разьвіцьця беларускага малярства. Працэс гэты на ўсім сваім працягу належыць да гісторыі беларускага народу. Вось чаму спроба праф. О. Повстенко пагадзіць два супроцьлежныя пагляды не магла мець удачы. Запраўдная навука ня можа ісьці на кампрамісы.

Субег усіх гістарычных фактаў і матар'ялаў, як і найнавейшыя дасьледваньні характару малярскіх росьпісаў у старой Польшчы, цалкам пацьвярджаюць беларускі характар, паходжаньне й асаблівасьці гэтых абразоў ды адкідаюць усе ненавуковыя, штучныя, тэндэнцыйныя пабудовы. Выступленьне сп. Гарняткевіча не зьяўляецца вынятковым сярод украінскіх навукоўцаў. Яно становіць сабою толькі чарговую спробу ў доўгім ланцугу безпадставных спробаў прысабечыць сабе красу й сілу нашае мінулае культуры. Беларусам ужо прыходзілася адбіваць падобную спробу на зьезьдзе украінскіх пісьменьнікаў у Байроце, Нямеччына, у 1946 г., калі ўкраінец Юры Косач у сваім рэфэраце, як і ў артыкулах у розных украінскіх часапісах, спрабаваў перахапіць гэткіх незабыўных дзеячоў беларускае культуры, як Кірыла Тураўскі, Францішак Скарына, Васіль Цяпінскі, Сымон Будны, Сымон Полацкі, Лаўрэн Зізані ды інш. На згаданым у сувязі з выступленьнем сп. Гарняткевіча ўкраінскім навуковым зьезьдзе ў Нью-Ёрку з падобным тэндэнцыйным сьцьверджаньнем выступіў праф. Чубаты, называючы нашага старажытнага пісьменьніка Кліма Смаляціча „украінцам". Гэткія прэтэнзіі ня толькі ня спрыяюць множаньню навуковае праўды, але й засьцяць дачыненьні абодвых народаў.

Выступленьне др. У. Сядуры й было належным навуковым адказам на адну з гэткіх беспадставных пабудоваў, мэта якіх — перахапіць нашую культурную спадчыну.

# З А Ц Е М К І

## ЛІКВІДАЦЫЯ ПОЛЬСКАГА ПЫТАНЬНЯ НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ

Польскі эканамісты-сацыялёг, былы праф. віленскага ўнівэрсытэту др. Ст. Сьвяневіч, у вадной з сваіх нядаўна надрукаваных працаў*) дае цікавы разгляд і ацэну тых сацыяльных і нацыянальных пераменаў, якія сяньня адбываюцца на прасторах былога Вялікага Княства Літоўскага (дакладней — Беларусі й Летувы) у выніку падзеяў апошняй сусьветнай вайны ды бальшавіцкай улады на гэтых землях.

Хоць на шмат якіх цьверджаньнях праф. Сьвяневіча й зазначаецца тыпова польскі пагляд на справу, ды ўсё-ж спроба характарыстыкі сацыяльна-нацыянальнай структуры ў мінулым, і асабліва спроба ацэны кірунку сучаснай гістарычнай эвалюцыі на землях Беларусі ды мяркаваньні на будучыню дастаткова цікавыя, каб да іх бліжэй ды крытычна прыглядзіцца.

Праф. Сьвяневіч у сваёй даўжэйшай працы пра „Гаспадарчую пазыцыю земляў Вялікага Княства Літоўскага" піша:

„На працягу гісторыі тры клясы былі шкілетам сацыяльнай структуры Вялікага Княства Літоўскага: земляўласьнікі, сяляне й жыды. Спэцыфічнай асаблівасьцяй сацыяльнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага было тое, што гэтыя тры клясы, якія выконвалі тры розныя грамадзкія функцыі, разьвіліся адначасна й як тры адменныя моўна, нацыянальна дый нават і рэлігійна, групы. Жыды былі ня толькі асобнаю рэлігіяй і нацыянальнасьцяй, але й асобнаю клясаю, которая займалася гандлёвым пасрэдніцтвам. Земляўласьнікі, г. зн. лятувіска-руская шляхта, амаль цалком пераняла польскую мову й культуру дый сталі неадлучнаю часткаю польскага народу. Сяляне спалянізаваліся ў большай масе на ўсім або частках прастораў паветаў Віленскага, Лідзкага, Ашмянскага, Троцкага, Браслаўскага, Ковенскага, Язераўскага, Кейданскага й Вількамірскага. На паўдзённа-заходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага з Падляшшам дый Мазоўшам, на абшары былога Троцкага ваяводзтва, польшчына яшчэ раней умацавалася сярод вясковага жыхарства паветаў Аўгустоўскага, Сувальскага й (часткова) Сейненскага. На засталай тэрыторыі яны пераважна захавалі ў хатнім жыцьці беларускую ці лятувіскую мову й на пачатку гэтага стагодзьдзя далі сацыяльную базу для разьвіцьця нацыянальных рухаў: лятувіскага й беларускага. Дык асаблівасьцяй кажнай нацыянал насіці Вялікага Княства Літоўскага на пачатку эвалюцыйнага працэсу, які распачаўся пасьля першай сусьветнай вайны, была іхная **сацыяльная аднаклясавасьць...**

„Найбольшую ролю ў фармаваньні гісторыі сыграла земляўласьніцтва. Была гэта гісторыятворчая кляса ў поўным значэньні гэтага слова. Ёй належыла ўпраўная зямля й лясы, як і палітычныя функцыі; прынамся ў пару Рэчыпаспалітай да падзелаў. Зь ейнага ўлоньня паўставалі вялікія магнацкія маемасьці. Гэтая кляса, што вырасла зь лятувіскага й рускага баярства („руска-га" аўтар ужывае ўсюды ў значэньні „беларускага" Р. М.), прыняла польскую культуру й рымска-каталіцкую веру, дый стала часткаю польскага народу. Ейная вага ў палітычнай і культурнай гісторыі Літвы была аграмадная. З атмасфэры гэтых двароў і дваркоў вырасталі вялікія ідэі й вялікія творы мастацтва... Нягледзячы на прыняцьце польскай культуры й мовы, роля гэтай клясы ня была абмежаная толькі да польскага й клясава-земляўласьніцкага жыцьця. Для ўсіх палітычных і культурных рухаў, каторыя разьвіваліся на землях былога Вялікага Княства Літоўскага на працягу апошніх 150 гадоў, дастаўляла яна правадыроў і інтэлектуальныя сілы. Было гэта ня толькі ў вадносінах да паўстаньняў і тайнай польскай асьветы за царскіх часоў, але й у вадносінах да адраджэнчых рухаў: лятувіскага й беларускага, розных кірункаў сацыялізму, а нават бальшавіцкай сацыялдэмакрацыі. Фэлікс Дзяржынскі быў-жа-ж земляўласьнікам з-пад Менску. Земляўласьніцкая кляса ня выявіла аднак талентаў для тварэньня новых гаспадарчых формаў на месцы, хоць дала шэраг першарадных арганізатараў для расейскага промыслу, што паўставаў у другой палове XIX ст. ... У выніку першай сусьветнай вайны асновы грамадзкай пазыцыі гэтай клясы былі ў вялікай ступені падрэзаныя. У выніку-ж апошняй вайны яна была зьмеценая з паверхні жыцьця дый разьцярушаная. Як сацыяльная кляса яна перастала існаваць... Дык пры намячаньні ўсіх праграмаў заўтра, трэба помніць, што сацыяльная база дасюлешняй гісторыятворчай клясы Вялікага Княства Літоўскага перастала існаваць і што новая запраўднасьць вымагае й новых канцэпцыяў будучыні.

„Другая кляса, якая зышла з гістарычнай сцэны, гэта жыды. Яны станавілі вельмі важны дзейнік у гаспадарчым жыцьці, бо прадстаўлялі здольнасьць прамысловай ініцыятывы й акумуляваньня капіталаў, паколькі стан даходаў на такую акумуляцыю пазваляў. Спосаб у які гэтая кляса была зьнішчаная, застанецца назаўсёды адной з найстрашнейшых балонаў у гісторыі ня толькі земляў Вялікага Княства й Польшчы, але й усёга чалавецтва.

„Дык на пляцы засталіся сяляне: лятувіскія — на паўночным захадзе, польскія — на Віленшчыне й часткава Ковеншчыне, беларускія — на рэшце тэрыторыі. Сяляне твораць найбольшую масу на ўсім гэтым абшары. Селянін у Вялікім Княстве Літоўскім прадстаўляе зусім іншую традыцыю і іншыя псыхічныя асаблівасьці, як селянін расейскі. Селянін гэты перадусім куды больш прывязаны да індывідуальнага валаданьня

*) Prof. Dr. Stanisław Świaniewicz: Pozycja gospodarcza ziem W. Ks. Litewskiego. Cykl wykładów: Dzieje Ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego. Alma Mater Vilnensis. Londyn 1953.

зямлёю, як селянін расейскі. Гэтая розьніца ў псыхалягічным настаўленьні ёсьць вынікам адменных лініяў аграрнага разьвіцьця Масквы й Вялікага Княства Літоўскага. На абшарах вялікарускіх пераважала „обшчына", якая ў некаторым сэнсе была таксама астаткам татарскай падаткавай арганізацыі, калі тымчасам аграрны лад Вялікага Княства Літоўскага быў вынікам вялікай рэформы, пераведзенай Жыгімонтам Аўгустам каля 1560 г., а ведамай у гісторыі пад назовам „валочнай памеры". Гэтаксама прыгон у Рэчыпаспалітай меў іншы характар, як у Расеі, дзе сваім тыпам зьбліжаўся да нявольніцтва. Магчымасьць прадаваньня сялян аддзельна ад зямлі было заведзена на землях Вялікага Княства Літоўскага толькі пасьля распадзелаў (Рэчыпаспалітай). Дык калектывізацыйная палітыка савецкіх уладаў мае да чыненьня гэтта зь іншым людзкім матар'ялам, як той, што існуе ў вялікарускай вёсцы.

„Колькі лятувіскіх сялян на Ковеншчыне й Жамойці, а польскіх на Віленшчыне зможа аператрываць сучасную сыстэму сталых дэпартацыяў — цяжка прадбачыць. Калі савецкае панаваньне ператрывае яшчэ дзесяць гадоў, дык магчыма, што гэтая кляса, якая ёсьць носьбіткаю традыцыяў краю, будзе таксама цалком зьліквідаванаю. Выглядае, што беларускі селянін усё-ж ператрывае. Магчыма, што беларускае сялянства, найлічнейшая сацыяльная й этнічная група земляў Вялікага Княства Літоўскага, ёсьць клясаю будучыні й з гэтай клясы некалі, у лепшых часох, выйдуць людзі, якія зьвяжуць нанава зырваную нітку гісторыі. Таксама магчыма, а нават больш праўдападобна, што вядучая роля ў будучыні будзе належаць да таго слою меставой інтэлігенцыі каторы цяпер творыцца ў сувязі з савецкім апаратам адміністрацыі й плянаваньня. Аднак мы мала ведаем пра спэцыфічныя свомасьці й мэнтальнасьць гэтае праслойкі. Можым толькі сьцьвердзіць, што ён становіць нязнаны нам, але. магчыма, важны элемэнт будучай сацыяльнай гісторыі".

Гэткія пагляды праф. Сьвяневіча. Ягоная схэма сацыяльна-нацыянальнай структуры ВКЛ, як бачым, вельмі й вельмі ўпрошчаная. Яна толькі вельмі прыблізна можа пасадыходзіць да апошняга стагодзьдзя існаваньня Вялікага Княства, але цалком не адказвае да стагодзьдзяў напр. XIV-XVI., калі ніякога паважнейшага польскага элемэнту ў ВКЛ наагул ня існавала дый ня было яшчэ паляізацыі беларускага баярства. Дый і жыды як паважнейшы ганддёва-эканамічны фактар у сацыяльнай структуры ВКЛ паявіліся не ад пачатку існаваньня гэтага Княства. У канцы-ж ВКЛ яны хоць былі й вельмі моцныя эканамічна, аднак не станавілі вылучнай групы мешчанства Беларусі. Хоць жыдоўскае мяшчанства эканамічна й пераважала бясспрэчна над беларускім (у некаторых местах нават і лічбова) дык аднак-жа аж пад самы канец Вялікага Княства й беларускае мяшчанства праяўляла значную гаспадарчую актыўнасьць, асабліва ў галіне рамёслаў, а таксама й у культурна-рэлігійных справах адыгрывала сваю не малую ролю. Хопіць прыпомніць хоць-бы актыўнасьць і палітычную вагу ў сваю пару праваслаўных рэлігійных брацтваў беларускіх местаў.

Перавялічвае моцна праф. Сьвяневіч і разьмеры палянізацыі беларускага сялянства. Пакідаючы на боку Ковенскі, Язераўскі дый іншыя лятувіскія паветы, пра пералічаныя аўтарам беларускія трэба сказаць, што ў іх толькі ў некаторых мясцох, толькі вельмі павярхоўна й толькі частка беларускага каталіцкага сялянства была прыпалячаная. Найчасьцей уся „палянізацыя" выяўлялася толькі ў тым, што беларускія сяляне каталіцкага веравызнаньня згодна з прывітаю ім каталіцкім польскім духавенствам тэрміналёгіяй называлі сябе людзьмі „польскай веры". Аднак папольску яны найчасьцей зусім ня ўмелі гаварыць, дый па сваіх звычаях, народна-этнічнай культуры й традыцыях нічога супольнага з палякамі ня мелі. Некаторая палянізацыя праявілася толькі ў вельмі абмежаных сялянскіх прасторах выняткова палажэньня, як напр. селішчы пад самаю Вільняй, дый і там яна была праблематычнаю.

Дый нас гэтта цікавіць ня столькі аўтарава ацэна былога нацыянальнага стану „земляў ВКЛ", колькі ягоная ацэна палажэньня сучаснага ды выснавы на будучыню. У гэтай справе набходна падчыркнуць аўтарава сьцьверджаньне: **„выглядае, што беларускі селянін аднак пературывае"** дый дапушчэньне, што **„магчыма беларускае сялянства ёсьць клясаю будучыні"** земляў ВКЛ.

Факт сяньня бясспрэчны, што ваенныя падзеі дый сучасны расейскабальшавіцкі рэжым ліквідуюць польскае пытаньне на землях Беларусі сыстэматычна, грунтоўна й назаўсёды. Ліквідацыя гэтая на прасторах цэнтральнай і усходняй Беларусі праводзілася ўжо перад апошняй сусьветнай вайной. На землях Беларусі заходняй, якія тады былі яшчэ пад Польшчаю, яна распачалася з самага пачатку апошняй вайны.

Адразу з заняцьцем бальшавіцкаю арміяй земляў Заходняў Беларусі, як ведама, эвакуавалася-ўцякла значная частка навезенага з Польшчы польскаю ўладаю польскага чыноўніцкага элемэнту дый і мясцовыя земляўласьнікі. Хто зь іх застаўся — былі пазьней дэпартаваныя, сасланыя бальшавікамі, асабліва грунтоўна — польскія асаднікі.

Пасьля бальшавіцкай рэакупацыі земляў Беларусі й канца апошняй вайны ліквідацыя польскага элемэнту ў БССР была праводжаная далейшымі масавымі вывазамі-дэпартацыямі (разам зь ня менш масавымі вывазамі й беларускага жыхарства) дый была ў поўнасьці завершаная шляхом праведзенай вымены польскага жыхарства БССР на беларускае з Польшчы. У выніку гэтай вымены астачы польскага элемэнту на землях Беларусі былі зьліквідаваныя цалком дый; пасьля закончанага перасяленьня, была аднятая й праўная падстава яго афіцыяльнага існаваньня. Мы ведаем, што пры нагодзе праведзенага перасяленьня паміж БССР і Польшаю і некаторая частка беларускага жыхарства зь Беларусі падала сваю нацыянальнасьць за польскую, ды пераехала ў Польшчу, дзе спадзявалася больш лагоднага палітычнага рэжыму.

Гэткімі псэўдо „польскімі" перасяленцамі асабліва густа заселеныя землі Усходняй Прусіі, якія трапілі ў межы сучаснай польскай дзяржавы. Дык ліквідацыя польска-

га элемэнту на землях Беларусі (за выняткам, зразумела, далучанай да Польшчы Беласточчыны) сяньня факт ужо гістарычна дакананы ледзь не ад дзесяці гадоў. Прэса БССР сяньня ніколі ня ўспамінае пра тое, каб у раёнах Беларусі існавалі нейкія польскія асяродкі, школы, ці наагул нейкае польскае культурна-нацыянальнае жыцьцё. Мы ведаем і з сьветчаньня праф. Каровіча, які нядаўна уцёк з Польшчы, што ў сяньняшняй Польшчы ўважаецца ўжо за факт дакананы, што ўсякія польскія справы за мяжою з СССР зьліквідаваныя й безпаваротна дый што польскае грамадзянства сучаснай Польшчы зусім ня хоча паваротy Польшчы даваеннай з усходнімі „крэсамі", з нацыянальнымі „меншынямі" дый з нацыянальнымі клопатамі. Пра гэта сяньня думае толькі польская палітычная эміграцыя.

З гэтага ўсяго бачым, што тэрмін — 10 гадоў — дадзены прафэсарам Сьвяневічам на поўную ліквідацыю польскага элемэнту на землях Беларусі быў ужо неактуальны й у мамэнт ягонага ўстанаўленьня, паколькі бальшавікі яго правялі ў куды хутчэйшым часе.

Што гэтак ёсьць, а ня накш, пацьвярджае нам і той ведамы факт-прыклад, што на землях цэнтральнай Беларусі (даваенная БССР) і ўсходняй (Смаленшчына) ніякога польскага пытаньня ня існавала практычна й з мамэнтам пачатку апошняй сусьветнай вайны. А й гэтыя прасторы перад першаю сусьветнаю вайной мелі некаторы працэнт прыпалячанага польскага мяшчанства, дробнай шляхты дый польскіх земляўласьнікаў. І гэта сталася нягледзячы на тое, што даўжэйшы час польскі элемэнт у БССР быў выразна фаварызаваны бальшавікамі супроць беларускага жыхарства дый штучна падтрымліваны. Быў на коратка, праўда, створаны нават польскі Койданаўскі раён, шырака адкрываліся польскія школы, выдаваліся польскія газэты, пры Беларускай Акадэміі Навук існаваў адмысловы польскі аддзел.

І ня гледзячы на гэта, з выбухам апошняй вайны на ўсім прасторы даваеннай БССР ніякога польскага пытаньня практычна ўжо ня было дый толькі рэдка й прыпадкова можна было там сустрэць паадзіночных палякоў, хіба не часьцей як і на прасторы напр. РСФСР.

Дык расейскі бальшавізм на працягу больш 10 гадавога гаспадараньня на землях Заходняй Беларусі ўжо зусім завяршыў працэс „дэполёнізацыі" й няма ніякой асновы чакаць на гэта яшчэ 10 гадоў, як прапануе праф. Сьвяневіч. Фактам гістарычным ёсьць, што ўжо сяньня на ўсім прасторы БССР застаўся адзінны масавы аўтахтоны элемэнт — беларускае сялянства. Паявілася, зразумела, і новае „нацыянальнае пытаньне" на землях Беларусі — расейскае. Яно хіба яшчэ аднак ані так вялікае лічбова, ані пасьпела ўрасьці глыбака ў мясцовую беларускую глебу, хоць як доўга існуе бальшавіцкі рэжым, яно й вельмі ўплывовае палітычна.

Дык з мамэнтам залому расейска-бальшавіцкага рэжыму беларускі народ будзе мець да вырашэньня гэтае — расейскае — пытаньне, а ня польскае, якое ўжо сяньня практычна ня існуе. Польскае пытаньне на беларускія землі мяркуюць прынясьці пры нейкай нагодзе звонку толькі некаторыя польскія эміграцыйныя палітыкі. Але гэта сяньня ляжыць у галіне іх фантазіі, а не рэальных гістарычных магчымасьцяў і разглядаць іх тут ня будзем.

Ня гледзячы на недакладнасьць у часе, вывады да якіх дайшоў праф. Сьвяневіч павінны быць цікавыя ня толькі польскім навукоўцам. Пра іх ня шкодзіла-б падумаць акурат і тым польскім эміграцыйным палітыкам, якія сяньня ўсё яшчэ думаюць старымі катэгорыямі ды ў сваіх меркаваньнях апіраюцца на няіснуючых ужо даўно й безпаваротна фактах.

**Р. М.**

# КНІГІ Й ЧАСАПІСЫ

**Nicholas P. Vakar: The Name "White Russia". The American Slavic and East European Review. October, 1949. Volume VIII.**

Спробы высьсьніць паходжаньне й спачатнае значэньне назову **Беларусь** існуюць ужо ад некалькі стагодзьдзяў, ня менш, як ад чатырох, бо ўжо ў палове XVI Гэрбэрштайн пробваў даць сваё тлумачэньне ў публікаванай у 1549 г. у Вене кнізе Rerum Moscovitarum commentarii.

Ад гэнай вось пары нарасла не малая літаратура да гэтага пытаньня. За яго разгляд і вырашэньне браліся гісторыкі й філялёгі, напісаны немалы лік працаў у розных мовах. Што да паходжаньня й значэньня назову было выказана ня менш дзесяці дапушчэньняў. Ня лёгка азначыць дакладней і прастор дый ягоныя межы, да якога гэты назоў у паасобных стагодзьдзях тарнаваўся, бо й гэта моцна мянялася. Хоць спачатна назоў гэты й ужываўся толькі да земляў сучаснай Беларусі, аднак пазьней яго тарнавалі толькі да часьці гэтых земляў, або, часова, нават і да земляў не беларускіх.

Паходжаньне назову высьсьнялася ад белай зрэбнай вопраткі, якую носяць жыхары Беларусі; ад сьветлай камплексыі, іх сьветлых валасоў і ачэй; ад белага сьнегу, якім доўгія месяцы ў годзе пакрытыя землі Беларусі (Гэрбэрштайн); ад „белых" местаў — Бельск, Белая, Беласток, Белавежа; ад Балтыйскага мора (**балтас** палятувіску значыць **белы**); ад слаўленьня „белага бога" — Бялуна, або, наадварот, ад хрысьціянства (слова **белы** ў назове мела-б тады тое-ж значэньне, што й **хрышчаны**); ад белых сярэбраных грошаў, якія некалі ўжываліся на землях Беларусі; ад багацьця, дабрабыту; ад слова **белы** ў значэньні добры, чысты, дабрародны; і ў канцы — ад слова **белы** ў значэньні вольны, свабодны, незалежны.

З усіх гэтых праўдападобных і непраўдападобных тлумачэньняў усё больш навуковага абаснаваньня й прызнаньня атрымлівае сяньня апошняе высьсьненьне, пададзенае ў другой палове XIX ст. ук-

раінцам Драгаманавым. Ён першы высунуў думку, што гэты назоў не прыпадковы, а у ім адбіваецца палітычнае палажэньне краіны ў мамэнт паўстаньня гэтага назову. Ведамая справа, што назоў **Белая Русь** у пісаных памятках ведамы толькі з паловы XIV ст., значыцца ён мусеў паявіцца крыху раней, тады, калі вялікія прасторы ўсходняй Эўропы лучылі ўжо пад татарскае панаваньне. Паколькі беларускія землі ня былі ў татарскай залежнасьці й не плацілі ім дані, дык іх тады й празвалі „белымі", значыцца вольнымі ад татарскага ярма, у супроцьлежнасьць Маскоўшчыне — „Чорнай Русі" (гэтак Маскоўшчыну тады ня раз і называлі). Белая масьць каня Пагоні, гэрбу ВКЛ, мела тое-ж важнае палітычна-сымбалічнае значэньне: падчырквала вольнасьць і незалежнасьць дзяржавы й ейнага валадара.

Выходзячы з цьверджаньня Драгаманава мусім дапусьціць, што назоў паўстаў не раней другой паловы XIII ст., калі пасьля татарскага наезду ў 1240 г. новае палітычнае палажэньне ў усходняй Эўропе ўжо замацавалася дый людзі ўсьведамілі сабе, што яно ня ёсьць толькі часовым, пераходным. Тады хіба-ж тагачасьнікі й пачалі азначаць заіснаваўшыя перамены й адпаведнаю новаю тэрміналёгіяй — новымы назовамі, **Белай і Чорнай** Русі.

У пісаных памятках першы раз сустракаем назоў Белай Русі ў нямецкіх аўтараў паловы XIV ст. Напрыклад у баварскага паэты Сухэнвірта (памёр у 1370 г.) пры апісаньні паходу лівонскіх мечаносаў супроць беларускіх земляў сустракаем гэткія радкі: Die Weizzen Reuzzen heten mut zu raisen auf die Christen.

Крыху пазьней назоў Белай Русі сустракаем у польскага храністы Янкі з Чарнкова пад 1382 годам. Адначасна амаль паяўляецца й назоў Чорная Русь у вадносінах да Маскоўшчыны (Russia Nigra). Дык у гэныя вякі існавалі надобныя спрэжаныя супроцьстаўныя назовы — Чорная і Белая Русь — як пазьней паявілася Вялікая й Малая Русь у вадносінах ужо да Маскоўшчыны й Украіны.

Бязумоўна, быць „чорным" — залежным, падуладным татарам, ня прыносіла гонару, і дзеля гэтага назоў гэты рэдка ўжываўся ў самой Маскоўшчыне, а куды часьцей паза ейнымі межамі. Яшчэ на пачатку XVIII ст. ведамы арабскі пісьменьнік Ібрагім бэн Алі з Каффы пісаў: „Чорная Русь, цяперашняе Маскоўскае гаспадарства". Сама Маскоўшчына намагалася назову гэтага пазбыцца. Калі маскоўскаму князю Івану III ўдалося наканец вызваліцца з татарскага ярма, ён адразу ў канцы XV ст. пробуе пераіменаваць Маскоўшчыну ў „Белую Русь", а сябе ў „белага князя" — каб падчыркнуць, што й Маскоўшчына наканец вольная ад татараў, „белая". Дый назоў гэты да Маскоўшчыны нейк ня прывіўся. Відаць і сама Масква ня так вялікі клала націск на справу быць вольнаю. Хутка яна знайшла сабе іншы назоў, які больш падыходзіў да вялікіх амбіцыяў і імкненьняў маскоўскіх самадзержцаў — назоў Вялікая Русь. Пры гэтым назове яна й засталася. Пасьля спробаў Маскоўшчыны перашчапіць назоў „Белай Русі" сабе, ад канца XV ст., у эўрапейскай пісьменнасьці паўстае значнае замяшаньне. Адны тарнуюць яго й далей да земляў Беларусі, другія — да Маскоўшчыны.

Трэба адцеміць, што назоў **Белая Русь ніколі даўней ня быў назовам** дзяржаўным. Быў гэта толькі паралельны назоў які існаваў побач іншых назоваў тагачаснай Беларусі. Як назоў дзяржаўны першы раз ён паяўляецца толькі аж у XX ст. з мамэнту абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску 25 сакавіка 1918 году.

Вось у сваёй працы Н. Вакар і дае кароткі агляд розных высьненьняў паходжаньня й значэньня назову **Беларуусь** і прыймае й за свой пагляд тое тлумачэньне Драгаманава, што назоў паўстаў некалі як адбіцьцё палітычна-гістарычнага факту — незалежнасьці гэтых земляў ад татараў. Н. Вакар з свайго боку шырэй абгрунтоўвае дый падмацоўвае гэты пагляд дакладнейшым разглядам значэньня слова **белы** як **вольны, свабодны, незалежны** ў мовах турэцкай, кітайскай, мангольскай. Гэтая частка працы найцікавейшая ў аўтара, хоць у ёй ёсьць і хібы. Перадусім выясьняецца, што для Н. Вакара зусім няведамае існаваньне балцкага субстрату ў васновах сучаснага беларускага народу. Выглядае, што ён ніколі ня чуў пра тое, што на ўсім амаль прасторы Беларусі існуюць тысячы балцкіх геаграфічных і асабовых назоваў, якія пра гэта найлепш сьветчаць. Дый гэтага пытаньня тутка ня будзем шырэй закранаць, бо яно было ўжо разгледжанае ў іншым месцы*).

*) Глядзі: Сымон Брата — Балцкі элемэнт пры паўстаньні сучаснага беларускага народу. 1950 г.

Дый галоўнае заданьне, якое ставіць сабе аўтар працы, ня ёсьць разгляд справы паходжаньня назову **Беларусь**. Н. Вакар намагаецца ў сваёй працы даць чытачу адказ на іншае пастаўленае пытаньне: якім назовам найлепш у ангельскай мове перадаваць слова **Беларусь: White Russia, Byelorussia,** ці яшчэ накш?

Адказ аўтара на гэтае пытаньне не самастойны. Ён проста прапануе прыняць у ангельскай мове назоў, які ад апошняй вайны намагаецца завясьці ў заходніх мовах савецкая Масква: Byelorussia, з адной толькі ня істотнай зьменай — выпушчэньнем у гэтым слове літары у пасьля **B**.

Матывацыя на гэта аўтара тая-ж, што й у савецкіх палітыкаў: каб на Захадзе ня блыталі беларусоў зь „белымі расейцамі", „белагвардзейцамі", што пры ўжываньні назову White Russia звычайна здараецца.

Н. Вакар зусім не заўважыў, што ў назове White Russia ёсьць жарало двох блытанінаў: адной — з расейскімі белымі эмігрантамі, другой — беларусоў з расейцамі наагул. Савецкая Масква новым назовам Byelorussia хоча пастараніць толькі адну блытаніну. На пастараненьні другой-жа ёй — як відаць і Вакару — зусім незалежыць.

Калі-б Вакар падыходзіў да пытаньня як сумленны навуковец дык для навуковай дакладнасьці й шукаў-бы такога назову ў ангельскай мове, які прэцызыйна перадаваў-бы назоў **Беларусь,** і які не даваў-бы прычыны для ніякой блытаніны — ні партыйна-палітычнай, ні нацыянальнай.

Адным з такіх дакладных назоваў і ёсьць, форма Whiteruthenia, якую тарнавалі некалі беларускія

навуковыя ўстановы Інбелкульт і Акадэмія Навук. Кажнаму добра ведама, што забарона гэтага назову з боку Масквы наступіла не зь мяркаваньняў навуковых, а чыста палітычных, вялікадзяржаўных.

Замена **White** на **Byelo** ліквідуе жарало толькі аднаго непаразуменьня. Замена-ж хвальшывай перадачы **Русі** словам **Russia** на правільную як **Ruthenia*)** ліквідуе аўтаматычна абедзьве блытаніны.

Хай сп. Вакар небаіцца, што з навуковым удакладненьнем назову праз гэта ўжо самае беларускі народ аддаліцца ад расейскага. Калі ён мае нешта супольнае зь ім, дык навуковае ўдакладненьне назову нічога ў тэтым ня зьменіць, і расейскі страх тут сп. Вакара зусім беспадстаўны.

А што ўсё-ж не навуковыя мяркаваньні, а палітычныя пераконаньні аўтара праяўляюцца ў першую чаргу пры спробе высьвятленьня справы, які найлепшы для ангельскай мовы назоў для Беларусі, бачым з таго, што пры разглядзе назову **Whiteruthenia** аўтар траціць раўнавагу й пераходзіць на такую партыйна-палітычную тэрміналёгію, як „беларускія нацыяналістыя", „беларускія сэпаратыстыя" (ужываюць гэты назоў) і лічыць, што гэтымі ўжо эпітэтамі дыскрэдытуе й сам назоў **Whiteruthenia**, да якога зь іншага боку цяжка знайсьці нейкія засьцярогі.

Падыходзячы да пытаньня зь лягічна-прынцыповага боку, ё с ь ц ь дзьве магчымасьці: або аўтар прызнае пляменную, гістарычную, этнічную, моўную дый культурную апрычонасьць беларускага народу, і калі так, дык як навуковец ён і павінен намагацца тарнаваць назоў які й адбівае дый падчырквае гэтую апрычонасьць, і ня выклікае ў нікога ніякой блытаніны; або, як тыповы прадстаўнік старой расейскай „белай" эміграцыі, гэтую апрычонасьць ён адмаўляе, — тады ня выпадае яму й выступаць у ролі „выясьняльніка" той блытаніны, якой ён з грунту сваіх палітычных пераконаньняў разблытаць псыхічна ня здольны.

**Р. М.**

---

*)Яшчэ В. Н. Татищев у сваёй кнізе „История Российская", Масква, 1768 г., том I, бач. 383, пісаў: „...что в Латинском Рутени, в Сарматском Русь едино значить".

### Dzieje Ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego. Cykl wykładów. Alma Mater Vilnensis. Лёндан, 1953 г. Бач. 400.

Кніга гэтая, гэта лекцыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, якія былі чытаныя ў Лёндане ў 1952/53 годзе польскімі прафэсарамі Віленскага Унівэрсытэту.

У кнізе памешчана 15 лекцыяў дзесяці розных аўтараў. Лекцыі абыймаюць важнейшыя пытаньні з гісторыі Вялікага Княства. Тэрытар'яльна аўтары абмяжоўваюцца да абшару ВКЛ ў межах пасьля Люблінскай Вуніі 1569 г., г. зн. бяз украінскіх земляў, якія ў часе гэтай вуніі былі забраныя ад Вялікага Княства дый далучаныя да Польшчы.

Асобна ў лекцыях асьветленая геаграфія прастору, гаспадарчыя пытаньні, гісторыя й гісторыя дзяржаўных вуніяў з Польшчаю, гісторыя войнаў і вайсковасьці, гісторыя дзяржаўна-палітычнага ладу. Асобныя працы памешчаныя пра Літоўскі Статут, пра нацыянальныя, моўныя й рэлігійныя суадносіны, пра польскую, лятувіскую й беларускую пісьменнасьць, пра мастацтва ў ВКЛ дый пра этнаграфічныя асаблівасьці паасобных нацыянальных групаў. Сярод аўтараў лекцыяў сустракаем такія ведамыя імёны прафэсароў Віленскага Унівэрсытэту як Касьцялкоўскі, Богуш-Шышка, Вяльгорскі, Сьвяневіч, Пашкевіч, Цэзарыя Бодуэн дэ Куртэно.



Як можна было й спадзявацца, кніга й усе памешчаныя ў ёй працы (за выняткам лятувіса Невяравічюса пра лятувіскую культуру), носяць на сабе выразную азнаку таго, што яны пісаныя акурат польскімі аўтарамі. На кажнай амаль бачыне кнігі адчуваецца ня толькі навуковы, але й польскі палітычны пагляд на гістарычныя, сучасныя й будучыя пытаньні прастору ВКЛ.

Палітычныя заданьні пастаўленыя польскімі навукоўцамі будуць асабліва яснымі й зразумелымі, калі возьмем на ўвагу факт, што ганаровым апякуном лекцыяў і выдаўцом кнігі быў і ведамы дый з добра ведамымі паглядамі генэрал Андэрс, які ў сваёй прамове падчас адкрыцьця лекцыяў сказаў: „Наўсуперак гэтаму, што зрадніцкія палітыкі гаварылі й падпісвалі, гэты край неразрыўная частка нашай вялікай гістарычнай Бацькаўшчыны".

І ўсё-ж, нягледзячы на гэта, кнігу гэтую цікава прачытаць дый асабліва цікава супаставіць з падобнымі даваеннымі выданьнямі працаў той-жа віленскай польскай прафэсуры, якія былі прысьвечаныя асьвятленьню прошласьці земляў ВКЛ, хоць-бы, напр., з гадавікамі **Ateneum Wileńskie**.

Адной з характэрных прыметаў даваенных навуковых публікацыяў польскіх аўтараў пра ВКЛ было пільнае абмінаньне беларускага народу, ягонага значэньня й, нават, калі магчыма, і ягонага імені ў гісторыі Вялікага Княства. Можна тамамі лістаць розныя даваенныя польскія навуковыя выданьні з гісторыі Вялікага Княства дый не знайсьці нават і ўспаміну пра той народ, які быў геапалітычным і нацыянальна-культурным стрыжнём гэтага Княства праз доўгія вякі ягонага існаваньня.

Трэба адцеміць, што справа значна зьмянілася з мамэнтам, калі сяньня Вільня ўжо ня ў межах польскай дзяржавы, а польскія прафэсары Віленскага Унівэрсытэту не на сваіх катэдрах, а на выгнаньні ў Лёндане. Аб гэтым прыходзіцца пераканацца пераглядаючы выданую ў Лёндане кнігу пра гісторыю земляў Вялікага Княства.

У поўнай адваротнасьці ранейшаму, у ёй амаль у кажнай працы гаворыцца ўжо пра беларускі народ, беларускую мову, культуру, і нават — як на польскіх аўтараў вялікая навіна — прызнаецца яму роўнае права на гістарычную спадчыну Вялікага Княства побач з нарадамі лятувіскімі дый польскімі. Хоць галоўным заданьнем лекцыяў і кнігі й ёсьць адзначыць дый падчыркнуць творчую гістарычную ролю акурат польскага элемэнту на беларускіх землях і землях Вялікага Княства наагул, аднак праз усю амаль кнігу аўтары не забываюцца паўтараць сваю сяньняшнюю думку пра тое, што Вялікае Княства было супольным творам трох народаў: беларускага, лятувіскага й польскага.

Выдатны польскі вучоны, адзін з найлепшых знаўцаў гісторыі польскай культуры й польскай нацыянальнай псыхікі, Аляксандра Брукнэр, падцеміў даўно што Польшча толькі ў няволі прыпамінала сабе іншыя славянскія народы дый ім спагадала. Брукнэр у сваёй апошняй вялікай трытомнай працы Dzieje kultury polskiej (Варшава, 1939 г.), у якой падсумаваныя плады 80-ці годняга працавітага жыцьця й больш як 50 гадоў навуковай працы гэтага карыфэя польскай навукі, піша пра польскае „славянафільства" канца XVIII й XIX ст. ст.: „У польскай грамадзкай думцы славянафільства вырасла на руінах значэньня Польшчы, было плодам няверы ў свае собскія сілы, сьветчыла пра занік нацыянальнай энэргіі". Ня чым іншым, хіба, прыходзіцца тлумачыць і тое сучаснае адкрыцьцё польскімі аўтарамі беларускага народу, хоць у ролі раўнапраўнага сугаспадара былога ВКЛ толькі пасьля разгрому Польшчы міжваенных гадоў.

Аднак гэтае „адкрыцьцё" й сяньня не даводзіцца яшчэ да поўнага свайго лягічнага завяршэньня, а аўтары звычайна затрымліваюцца на поў дарогі. Калі, напрыклад, праф. Вяльгорскі й захопліваецца вялікай спадчынай ВКЛ, асабліва ў галіне дзяржаўнага ладу й духовай культуры, калі адзначае „уражаючы прыклад **разнароднасьці** навонкі, а **адналітасьці** ў глыбейшых духовых асновах", калі падчырквае „рэлігійную й моўную талеранцыю якой магла-б пазайздросьціць сучаснасьць, побач агульнай салідарнасьці, асабліва ў абароннай галіне", калі дзівіцца, што „ўжо ў XVI ст. гэтая дзяржава перараджаецца ў парлямэнтарную дэмакрацыю з шырокім — як на гэныя часы — засягам грамадзкіх правоў" дый што „самаўладу валадара заступае праваўлада ў XVI стагодзьдзі ўнятая ў рамы Статуту", дык — гэта трэба ўжо нам падчыркнуць — ні праф. Вяльгорскі, ні іншыя аўтары ў кнізе ня робяць далейшага лёгічнага вываду з сваіх правільных сьцьверджаньняў дый захапленьняў і ня ставяць сабе пытаньня: хто-ж, які народ з сваімі духовымі асаблівасьцямі дый сваёю псыхікаю быў асновою-крыніцаю і тварцом усёй вялікай культурна-духовай спадчыны Вялікага Княства?

Ці-ж маглі гэтыя вартасьці быць польскімі, прынесенымі з Польшчы (як існуе сталая тэндэнцыя выясьняць гэтак справу ў польскіх аўтараў), калі ў самой Польшчы яны ніколі ня існавалі? Немагчыма-ж перадаваць суседзям таго, чаго ў самых няма. Ня былі гэтыя вартасьці й лятувіска-жамойцкім творам, бо-ж самі аўтары сьцьвярджаюць, што ўжо ў XV ст. лятувіскія культурна-сацыяльныя верхавіны, баярства дый мяшчанства, зусім зьбеларушчыліся — найлепшая адзнака й довад таго які народ тады культурна й палітычна дамінаваў у Вялікім Княстве й фармаваў ягоныя духовыя культурныя вартасьці дый тварыў дзяржаўна-палітычны лад.

Гэтым ня хочым сказаць, што ў пазьнейшых стагодзьдзях ня існавалі паважныя польскія ўплывы дый што, пашукаўшы, знойдзем і тыя ці іншыя сьляды ў культуры Вялікага Княства й таго, што ў ягоны склад уваходзілі й землі жамойцкія дый украінскія. Значэньне Польшчы ў гісторыі ВКЛ зводзілася больш да перадавальніка заходнеэўрапейскіх культурных формаў дый, пад канец, асымілятара шляхоцкай верхавіны. Сама-ж Польшча рэдка выступала ў ролі самастойнага творцы новых культурных вартасьцяў.

Дык галоўнаю нацыянальнаю асноваю й жаралом „глыбейшых духовых асноваў" і характару Вялікага Княства быў народ беларускі. Гэтага ачавіднага гістарычнага факту анічуць ня мяняе тое, што некаторыя пазьнейшыя нашчадкі гэтых тварцоў (шляхта) моўна й паланізаваліся (хоць ніколі не маглі спалячэць духова й заўсёды захоўвалі сваю адменную псыхіку ад палякаў і з паходжаньня). Вось на парабленьне такіх вывадаў ня могуць і сяньня яшчэ здабыцца польскія аўтары гісторыі Вялікага Княства.

Удараюча, як гэтыя, так характэрныя некалі асаблівасьці рэлігійнай, моўнай і нацыянальнай талеранцыі, шчэзьлі зь земляў Вялікага Княства, напр. з прастору Заходняй Беларусі, у пару між двумя сусьветнымі войнамі, калі не беларускі народ ужо, а палякі й Польшча былі адзінымі й поўнаўладнымі гаспадарамі гэтага прастору. Як яны былі рознымі, кардынальна рознымі ад палітычна-духовых асноваў Вялікага Княства. Каб пераканацца, хопіць прыпомніць сабе хаця-б такія зыркія факты, як нішчэньне й руйнаваньне сотняў праваслаўных сьвятыняў пару гадоў перад выбухам другой сусьветнай вайны, як паліцыйная ліквідацыя й забарона ўсіх беларускіх школаў на прасторы Заходняй Беларусі, як адміністрацыйная забарона існаваньня й дзейнасьці ўсіх беларускіх культурна-прасьветных арганізацыяў і іхных гурткоў, як закрыцьцё беларускіх газэтаў усіх палітычных кірункаў, улучна з органамі беларускай хрысьціянскай дэмакрацыі.

Вось усьведамленьне сабе гэтых гістарычных фактаў дый супастаўленьне іх з дэмакратычнай талеранцыяй на гэтых-жа землях у пару Вялікага Княства, значна памаглі-б аўтарам знайсьці правільны адказ на вельмі важнае дый істотнае пытаньне. духовая моц і сіла якой народнай стыхіі й традыцыі ўтрымлівала лад, талеранцыю й дэмакрацыю стагодзьдзямі ў Вялікім Княстве, і які ў запраўднасьці народ быў тварцом, носьбітам, а сяньня іх правамоцным спадкаемнікам.

Адменныя ў польскіх аўтараў і насьвятленьні шмат якіх іншых пытаньняў з гісторыі Вялікага Княства. У даваеннай Польшчы было тыповым, пераважала тлумачэньне, што з мамэнтам Крэўскай вуніі Вялікае Княства было проста „інкарпараванае" ў Польшчу й перастала існаваць як самастойная дзяржава. Сяньня — на эміграцыі — польскія навукоўцы ўжо куды часьцей пазнаюць і прызнаюць тую гістарычную праўду, што й перад Люблінскай Вуніяй, і пасьля яе, аж да самага канца „Рэчыпаспалітае" (да 1791 г.) з праўна-дзяржаўнага гледзішча абедзьве дзяржавы выступалі як роўныя, роўнапраўныя партнэры.

Праф. Касьцялкоўскі вось што піша пра гэта ў кнізе:

„Калі-б мы захацелі якнайагульней аддаць характар Люблінскай Вуніі 1569 г., дык муселі-б сказаць, што ў гэтым годзе дзьве дзяржавы — Польшча й Літва, зусім дагэтуль самастойныя й ад сябе незалежныя, якія дагэтуль жылі толькі ў пэрсанальнай вуніі ... цяпер у 1569 г. на люблінскім сойме **абедзьве** зракаюцца з часьці гэнай поўнай сваёй

незалежнасьці, абедзьве трацяць некаторыя з асаблівасьцяў гэтай поўнай самастойнасьці — адна на карысьць другое — а нават хутчэй што: і Польшча й Літва, як арганізмы цалкам самастойныя й незалежныя ў тым характары кажны асобна **перастаюць існаваць,** а заміж гэтых двух дзяржаўных арганізмаў дагэтуль асобных — **паўстае новы праўна-дзяржаўны твор,** каторага дагэтуль ня было, каторы ўвабраў у сябе абодва незалежныя дагэтуль элемэнты, а паймення паўстае Respublica Utriusque Gentis, — Рэчыпаспалітая абодвух народаў, ці **Дзяржава** ані толькі польская, ані толькі літоўская, але абодвух разам: супольная польска-літоўская".

У чым-жа гэтая супольнасьць была праведзеная на Люблінскай Вуніі? Касьцялкоўскі падае толькі адно: супольны сойм, побач ужо раней існаваўшай супольнасьці валадара. Усё-ж іншае — і права, і скарб, і войска пад асобным кіраўніцтвам, і міністэрскія ўрады маршалкаў, канцлераў, падскарбіх, гэтманаў — засталіся асобныя й незалежныя. Існавалі далей і дзяржаўныя і мытныя граніцы паміж Вялікім Княствам і Польшчаю. Касьцялкоўскі кажа: „яшчэ за Станіслава Аўгуста ланцуг мытных каморaў разьмяжоўваў на два бакі мытныя тэрыторыі Каронныя й Літоўскія й асобная „мытная пэрцэпта" (мытны даход) плылі да кажнага з двох скарбаў Рэчыпаспалітай, а ўсякая фармальная сувязь паміж Польшчаю й Літвою апіралася як на стала трывалым фундамэнце, на супольнасьці **толькі — супольнага валадара й супольнага Сойму Рэчыпаспалітай".**

Праф. Касьцялкоўскі далей зазначае, што й пасьля Люблінскай Вуніі праз даўжэйшы час Польшчаю толькі сама Польшча называлася, а ня ўся Рэчыпаспалітая. Толькі пазьней, ад пачатку XVII ст., на захадзе пачалі ўпрашчаць сабе справу й падвойную дзяржаву ўсё часьцей коратка называлі Польшчаю. На ўсходзе-ж — у Маскоўшчыне — даўжэйшы час было наадварот: падвойную дзяржаву называлі Літвою. У дакумэнтах маскоўскага „пасольскага прыказу" яшчэ на пачатку XVII ст. Жыгімонта Вазу мянуюць „Жыгімонтам Літоўскім". І толькі значна пазьней пашырыўся дый замацаваўся хвальшывы зь юрыдычнага гледзішча скарочаны тэрмін „Рэчыпаспалітая Польская", хоць павінна была-б яна называцца „Рэчыпаспалітаю Польска-Літоўскаю", ці падобна.

Гэтае поўнае прызнаньне юрыдычнай роўнапраўнасьці ВКЛ у складзе Рэчыпаспалітае й прызнаньне беларускага народу за роўнапраўнага сугаспадара гэтага Княства — гэта значная эвалюцыя паглядаў у польскіх гісторыкаў на эміграцыі, якую неабходна тут адцеміць і падчыркнуць. Ад такога становішча ўжо значна бліжэй і да бесстароннай гістарычнай праўды, што ВКЛ было адно з гістарычных дзяржаўных формаў беларускага народу й таму й адбівала духовыя прыкметы гэтага акурат народу.

**С. Б.**



# Х Р О Н І К А

**Рэфэрат пра беларускія пераклады Біблії.** 22-24 красавіка с. г. у Лексінгтон, Кентукі, адбылася 7-ая канфэрэнцыя чужых моваў Унівэрсытэту Кентукі. У ваддзеле славянскіх моваў 23 красавіка рэфэрат пра пераклады Сьвятога Пісьма на беларускую мову меў кс. Міхал Урбановіч з Марыянскай Сэмінарыі Клярэндон Гіллс, Ілінойс. Кс. М. Урбановіч у сваім рэфэраце інфармаваў пра даўнейшыя пераклады Біблії на **старабеларускую** мову — жыдоўскі сынагагальны з XV ст. і др. Францішка Скарыны з 1517 г. — і пра новыя пераклады на **сучасную** беларускую мову Антона Луцкевіча (1931 г.), кс. Вінцэся Гадлеўскага (1939 г.) і паваенны пераклад кс. др. Пётры Татарыновіча.

У канцы свайго рэфэрату кс. Урбановіч прачытаў для прыкладу й прыраўнаньня адрывак з эвангельля сьв. Мацея ў варыянтах трох апошніх перакладаў на сучасную беларускую мову.

**Рэфэрат пра беларускую літаратуру.** 31 травеня 1954 г. Унівэрсытэт Манітоба ў Канадзе арганізаваў у Вініпэгу канфэрэнцыю канадыйскіх сляві́стых. Рэфэрат пра беларускую літаратуру ў БССР і за яе межамі прачытаў на гэтай канфэрэнцыі паэта Мікола Вярба-Сыльвановіч.

**Зборнік вершаў Ларысы Геніюш.** Рупнасьцяю сяброў Беларускага Інстытуту сабрана больш ста вершаў Ларысы Геніюш, якія не ўвайшлі ў ейны зборнік „Ад родных ніў". Вершы гэтыя былі раскіданыя па розных часапісах, а вялікая іх частка яшчэ ня была друкаваная нідзе. У зборнік уваходзіць і незакончаная паэма „Рагнеда".

**Новыя музычныя творы.** Кампазытар Алесь Карповіч апошнім часам паклаў на ноты тэксты гэткіх вершаў: „Сэрэнаду" — на словы Міхася Кавыля, „Лялею" — на словы Рыгора Крушыны, „Мая казка" (раманс) і „Стары лірнік" (для харавога сьпеву) — на словы Максіма Танка. Кампазытар распачаў працу над беларускай апэрэтай.

**Памёр кампазытар Рагоўскі.** Югаславянская прэса паведаміла, што гэтаю вясною ў Югаславіі памёр на 71-шым годзе жыцьця выдатны музыка-кампазытар Людамір Рагоўскі. Кампазытар апошнія дзесяцігодзьдзі свайго жыцьця аддаў для працы у галіне югаславянскай музыкі. Людамір Рагоўскі адзначыўся й у гісторыі беларускага музычнага мастацтва. Ён аўтар першага беларускага сьпеўніка „Беларускі песеньнік з нотамі", які вышаў з друку перад Першаю Сусьветнаю Вайною.

**Апошні перадсьмертны твор М. Равенскага.** Разгляд музычнай спадчыны кампазытара Міколы Равенскага выявіў, што апошнім ягоным перадсьмертным творам ёсьць дуэт для жаночых галасоў „Мой родны кут" на словы з паэмы Якуба Ко-

ласа „Новая зямля" (першыя 18 радкоў першага разьдзелу) напісаны ў верасні 1952 г. Дуэт належыць да ліку найлепшых твораў кампазытара й зьяўляецца ўзорам беларускага стылю ў музыцы, адным з выдатных прадстаўнікоў якога Равенскі быў. Робяцца захады для апублікаваньня дуэту друкам.

**КОНАДНІ** — пад гэткім назовам коштам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва выдадзены № I літаратурна-мастацкага часапісу. У нумары творы:
Н. Арсеньневай — нізка вершаў „Ледзь Красавік", К. Юхневіча — апавяданьне „Паэма пачаткаў", М. Кавыля — вершы, Ю. Віцьбіча — эскіз „Так станецца", Р. Крушыны — паэма „Эротава Іскрыпка", М. Люціча — апавяданьне „Каінава плямя", Я. Юхнаўца — нізка вершаў „Жаданьні", Ґ. Гаўптмана — казачная драма „Затонуты звон" у перакладзе Н. Арсеньневай, Я. Менскага — „Уладзімер Жылка" — характэрыстыка творчасьці, Р. Склюта — „Зь яснай явы ў ночнае царства", пра крытычныя гады ў творчасьці Ул. Дубоўкі й Я. Купалы.

Апрача гэтага ў часапісе памешчаныя рэпрадукцыі твораў мастакоў — скульптура: Міхася Наўмовіча „Багародзіца"; абразы: Пётры Міраловіча — „Сяўба", „Над Дзьвіною", „Каплічка"; Міколы Касака — „Партрэт спн. К."; Міхася Сяўрука — „Пральля".

**Навуковая канфэрэнцыя пра акадэмічную свабоду ў СССР.** 3-4 красавіка с. г. у Ню Ёрку была арганізаваная, пры матар'яльным падтрыманьні Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму, навуковая канфэрэнцыя навукоўцаў эмігрантаў з СССР. Тэма канфэрэнцыі — „Пытаньне акадэмічнай свабоды ў СССР". Рэфэрат пра беларускую літаратуру ў БССР падчас канфэрэнцыі прачытаў сп. А. Адамовіч.

**Інстытут Вывучэньня Гісторыі й Культуры СССР.** Інстытут пад гэтым назовам працуе ў Мюнхене, Нямеччына, ад сваіх закладзінаў 9 ліпеня 1950 г. Матар'яльна Інстытут фінансуе Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму. Згодна з статутам Інстытуту, ягоным заданьнем ёсьць дасьледваньне тэорыі й практыкі дзяржаўнага й сацыяльнага ладу СССР, а такжа гістарычных, культурных, навуковых, нацыянальных і палітычных праблемаў Савецкага Саюзу.

Да гэтай пары Інстытут быў фактычна расейскаю навуковаю ўстановаю арганізаванаю за амэрыканскія грошы. Усе сябры Інстытуту й ягонае кіраўніцтва былі расейцы. Працы публікаваліся толькі пра расейскія ці агульна савецкія праблемы, ніякіх нацыянальных пытаньняў у СССР Інстытут ня бачыў. Працы Інстытуту друкаваліся пераважна парасейску й толькі ў абмежанай меры паангельску.

У ліпені с. г. наступіла нарэшце пераарганізацыя Інстытуту ў кірунку ўвядзеньня ў яе склад навукоўцаў нерасейскіх народаў СССР. 5-7 ліпеня у Туцінгу пад Мюнхенам адбылася чарговая навуковая канфэрэнцыя Інстытуту ў якой прыймала ўдзел каля 200 навукоўцаў эмігрантаў з СССР і навукоўцаў з краінаў Заходняй Эўропы, між імі 8 беларусоў. Агульная тэма канфэрэнцыі была: „Сучасны стан і пэрспэктывы ў разьвіцьці палітычнага, эканамічнага й нацыянальнага пытаньняў у СССР". Гэтым пытаньням было прысьвечана 11 рэфэратаў і корэфэратаў. Між імі быў і рэфэрат др. Ст. Станкевіча пра „Нацыянальную палітыку Крамля ў Беларусі" з корэфэратам сп. С. Кабыша.

Некалькі дзён пасьля канфэрэнцыі, 13 ліпеня, у Мюнхене адбылася агульная асамблея сяброў Інстытуту. Падчас гэтай асамблеі былі докааптаваныя 23 новыя сябры з пасярод навукоўцаў нерасейскіх народаў. Цяперашні склад Інстытуту паводле нацыянальнасьці гэткі: 20 расейцаў, 13 украінцаў, 4 беларусы, 6 прадстаўнікоў ад каўкаскіх і цюркскіх народаў. Зь беларусоў у сябры Інстытуту ўвайшлі: др. Ст. Станкевіч, др. В. Жук-Грышкевіч, др. Ч. Сіповіч, сп. А. Адамовіч. Асамблея таксама правяла зьмены ў статуце Інстытуту й выбрала адміністрацыйныя й навуковыя кіруючыя органы. Органамі Інстытуту, апрача Агульнай Асамблеі сяброў, зьяўляюцца: Навуковая Рада й Дырэкцыя.

Дырэктарам Інстытуту выбраны праф. Б. Якаўлеў (расеец), заступнікам дырэктара для справаў адміністрацыйных праф. І. Бакала (украінец) і для справаў навуковых — праф. М. Мільлер. У Навуковую Раду выбраныя: праф. Мерцалаў і праф. Каванкоўскі (расейцы), праф. Мартос і праф. Вакуленка (украінцы), др. Ст. Станкевіч (беларус), др. Тарасьян (ад каўкаскіх народаў), праф. Тоган (ад цюркскіх народаў). З пасярод сяброў Навуковай Рады быў выбраны прэзыдыюм у складзе: старшыня — праф. Мартос, заступнікі старшыні — праф. Мерцалаў і др. Кірымал (крымскі татарын), сакратар — др. Ст. Станкевіч.

Паводле новага статуту Інстытуту да кампэтэнцыяў Навуковай Рады належыць справа прызнаваньня стыпэндыяў і кіраўніцтва ўсёй навуковай дзейнасьці ўстановы, а да кампэтэнцыі Дырэкцыі — агульная адміністрацыя й фінансавыя справы. Галоўныя галіны дзейнасьці Інстытуту: выдаваньне стыпэндыяў на навуковыя працы аб СССР і — выдавецтва. Інстытут мае ўжо бібліятэку велічыні больш 16.000 тамоў кніжак і больш 300 часапісаў. Пры Інстытуце арганізаваны й працуе Бібліяграфічны Аддзел.

Яшчэ старымі ўладамі Інстытуту ў першым паўгодзьдзі 1954 г. было прыдзелена 66 стыпэндыяў на навуковыя працы аб СССР, з чаго 32 расейцам, 22 украінцам, 4 беларусам, рэшта навукоўцам іншых нацыянальнасьцяў. Вышыня стыпэндыяў Інстытуту для навукоўцаў у ЗДА — 200 дал. у месяц, для іншых краінаў Амэрыкі й Аўстраліі — 150 дал. у месяц, для Эўропы — 100 дал.

Пры кіраўніцтве Інстытуту створана 6 камісіяў: 1. Рэарганізацыйная; 2. Стыпэндыяльная; 3. Рэцэнзыйная стыпэндыяльных працаў і навуковых выданьняў; 4. Выдавецкая; 5. Бібліятэчная й 6. Бібліяграфічная. Беларускі прадстаўнік уходзіць у склад камісіяў рэарганізацыйнай і выдавецкай, а стыпэндыяльнай зьяўляецца старшынёю.

Дагэтуль Інстытут выдаваў навуковы неперыядычны орган „Вестник" парасейску ў якім друкаваліся працы, зацемкі, рэцэнзыі. У гэтым годзе Інстытут пачаў выдаваць месячныя пэрыядычныя агляды справаў і падзеяў у СССР пад загалоўкам „Бюлетень", які выходзіць паралельна двумя выданьнямі — паангельску й парасейску. Апубліка-

ваў Інстытут і некалькі дзесяткоў працаў (друкарскай і ратагарнай тэхнікай) асобнымі кніжнымі выданьнямі, усе толькі парасейску. У будучыні праектуецца друк працаў у часапісах Інстытуту й асобнымі кніжнымі выданьнямі ў мове ангельскай і мовах нерасейскіх народаў СССР.

**Расейска-беларускі слоўнік.** Інстытутам Мовазнаўства Акадэміі Навук БССР у 1953 г. у Маскве надрукаваны „Руска-беларускі слоўнік". Слоўнік складзены пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы й П. Глебкі. Над укладам слоўніка працавалі яшчэ Е. Броўка, Н. Вайтовіч, Н. Лобан, Ю. Мацкевіч, М. Суднік і Я. Язьвінская. Слоўнік зьмяшчае каля 86.000 словаў і мае практычнае прызначэньне „памагаць пры перакладах з расейскай мовы на беларускую". Згодна з сучаснымі вымаганьнямі Масквы, у беларускай частцы слоўніка — як гэта й зазначана ў прадмове — слоўнік „узбагачаны" значна „коштам расейскай, роднай для беларускай, мовы" (!). Дзеля гэтага слоўнік і карысны галоўна для пазнаньня й вывучэньня разьмераў нідзе на сьвеце не сустраканага штучнага „папаўняньня" адной мовы словамі другой. Значна меншую мае слоўнік карысьць практычную, бо ім бяз шкоды можа карыстацца толькі той, хто дастаткова прыгатаваны, каб разрозьніць запраўдныя беларускія словы ад масава ўслоўнік уведзеных на месца іх словаў расейскіх.

**Пэр'ядычны друк БССР.** Паводле інфармацыі Беларускай Бібліяграфічнай Службы на пачатку 1953 г. у БССР выходзіла з living пэрыядычнасьцю пабеларуску, а некаторыя й расейскаю моваю, газэтаў:

| | |
|---|---|
| Цэнтральна-рэспубліканскіх | 10 |
| Акруговых | 12 |
| Раённых (5-10 разоў у месяц) | 174 |
| Газэты МТС і інш. | 138 |
| Разам | 334 |
| Часапісаў | 11 |
| Усяго | 345 |

Трэба зазначыць, што адзін раён (усіх раёнаў у сучаснай БССР 175) ня мае свае газэты. Газэты МТС — невялікага фармату, як і некаторыя раённыя, выходзяць вельмі непэрыядычна, у дзьве гранкі.

Агульны тыраж усіх пэрыядычных выданьняў перавышаў тады-ж лік аднаго мільёна.

**Астранамічная карта Капіевіча.** У Маскве ў красавіку м. г. паявілася вестка аб тым, што праф. Б. Варанцоў- Вельямінаў знайшоў у ваддзеле рукапісаў бібліятэкі Акадэміі Навук СССР друкаваную астранамічную карту 17 ст., якая была прыгатаваная й выдадзеная ў 1699 г. на заказ цара Пятра беларускім эмігрантам у Галяндыі, Ільлёй Капіевічам Капіеўскім. Карта з паясьненьнямі да яе захавалася толькі ў 2 няпоўных экзэмплярах. Яна называецца: „Поверстаніе кругов небесных".

**ПАПРАЎКА:** У папошняй вестцы хронікі папярэдняй кніжкі ЗАПІСАЎ трэба паправіць час паўстаньня Украінскай Акадэміі Навук (трэба 35 гадоў) і Навуковага Т-ва Шэўчэнкі (трэба 80 гадоў), што пры наборы было пераблытана.





**ПРЫСЛАНАЕ Й ПРЫСЫЛАНАЕ**

**КАМБАТАНЦКІ ГОЛАС.** Ворган беларускіх камбатантаў на чужыне. № 1. Лювэн, 1954 г.

**Д. Каров.** Партизанское движение в СССР в 1941-1945 г. г. Институт по Изучению Истории и Культуры СССР. Мюнхэн, 1954 г.

**МАТЕРИАЛЫ** Конференции Института по изучению истории и культуры СССР, состоявщейся в Нью Йорке (США) 20-22 марта 1953. Институт по Изучению Истории и Культуры СССР. Мюнхэн, 1953 г.

**П. Ковалів:** Василь Сімович. Українська Вільна Академія Наук. Вінніпэг, 1953 г.

**Vacłaŭ Panucevič:** Žamojdź i Litva. Roznyja krainy i narody. Tom I. Chicago 1953-54. 383 bač.

**Jahrbücher fur Geschichte Osteuropas.** Osteuropa — Institut München, 1954.

**UKRAINE** in foreign comments and descriptions from the VIth to XXth century. By Volodymyr Sichynsky. New York, 1953.

**SECOND ANNUAL REPORT.** March 1952 — 1953. The East European Fund, Inc. New York.

**The Voice of Free Georgia.** № 1-4. New York.